КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 9 (330) ◂ 7 сакавіка ◂ 2013 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**ФЛОРА — КАХАННЕ АДАМА**

Стар. 15

**УРАД НЕ ВЫНЕСЕ ДВАІХ**

Публічны «разнос» урада ўсё ж такі адбыўся. Незалежныя эканамісты прагназавалі яго паўгода таму, калі стала зусім зразумела, што прагнозныя паказчыкі па ВУП выканаць немагчыма

Стар. 5

**ПАЛІТЫКА ПРЫЙШЛА Ў ГАЛІВУД**

Апошняя цырымонія ўручэння прэмій «Оскар» была гістарычнай. Ніколі яшчэ ў спісе кандыдатаў на намінацыю «Лепшы фільм» не было столькі стужак пра палітыку

Стар. 13

**УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ: ЯК ПАЛЁТ ЛАСТАЎКІ НАД ВАДОЙ**

Стар. 6

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ТРАГЕДЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ**

Артыкул Ігара Кузняцова

▸ **8 САКАВІКА**

# ДЗЕНЬ УЗБРОЕНЫХ ЖАНОЧЫХ СІЛ

Сяргей ПУЛЬША

**Дзень 8 сакавіка сапсавалі. Гэта зусім не «цукеркачна-букетнае свята». Гэта, хутчэй, Дзень узброеных жаночых сіл. Гэта дзень мітынгаў і бунтаў жанчын, а пад цукеркі і падарункі яно папросту замаскіраванае.**




Калі нехта будзе казаць, што жанчыны ў гэты дзень такія «пяшчотныя, ласкавыя, прыгожыя» — не верце! Гэта жаночы падман. І ўвесь свет, які мы ведаем яго зараз, створаны ў гэтыя дні жанчынамі. Не верыце?

Усім вядома, што падставай для пачатку Міжнароднага жаночага дня стаў марш пратэсту нью-ёркскіх тэкстыльшчыц і работніц швейных і абутковых фабрык. Гэта адбылося 8 сакавіка 1857 года. Натуральна, дэманстрацыю разагналі, але ў сувязі са сваёй незвычайнасцю шуму яна нарабіла багата. І толькі пасля шматлікіх выступаў атрымалася дамагчыся ўвядзення 10-гадзіннага працоўнага дня. Пасля гэтага, як грыбы пасля дажджу, на многіх прадпрыемствах у ЗША паўсталі прафсаюзныя арганізацыі.

Так што 8 сакавіка — гэта не толькі дзень жанчын, гэта дзень пачатку масавага прафсаюзнага руху.

Усе наракаюць, што 8 сакавіка прыдумала Клара Цэткін. Брэшуць на жанчыну. Так, у 1910 годзе яна прапанавала абраць нейкі «Дзень жанчын». Другая Міжнародная Канферэнцыя жанчын-сацыялістак, дзе Цэткін выступіла з гэтай прапановай, выказалася «за», але дату жаночага дня не вызначыла. Таму ў 1911 годзе шэраг краін адзначылі Міжнародны жаночы дзень 19 сакавіка, у 1912-м — 12 сакавіка, у 1913-м — зноў 19 сакавіка.

Больш цікава атрымалася з Міжнародным жаночым днём на тэрыторыі Расійскай імперыі, якая жыла па Юліянскім календары, а на сусветны Грыгарыянскі яна перайшла толькі з прыходам бальшавікоў да ўлады. Таму сусветны дзень 8 сакавіка ў былой Расійскай імперыі быў днём… 23 лютага, у сённяшні Дзень абаронцы Айчыны!

23 лютага 1917 года жанчыны Петраграда выйшлі на вуліцы з лозунгамі «Хлеба і міру», супраць працягу Другой сусветнай вайны. З чаго, дарэчы, і пачалася Лютаўская рэвалюцыя. Можа, каб не было б «жаночага бунта», не было б ні дзвюх рэвалюцыяў, ні СССР, ні БССР, і ўвогуле гісторыя пайшла б па зусім іншым шляху.

Яшчэ адзін міф — гэта тое, што бальшавікі ўсяляк садзейнічалі гэтаму святу, прасоўвалі яго, і пасярэдніцтвам яго стваралі міф пра СССР як пра краіну «роўных магчымасцяў» для жанчын і мужчын. Насамрэч у СССР гэта свята вельмі доўга замоўчвалася.

Зразумела, у бальшавікоў павінна была быць толькі адна рэвалюцыя — Вялікая Кастрычніцкая. Ніякіх намёкаў жаночым святам на Лютаўскую рэвалюцыю і, адпаведна, ролю ў ёй жанчын быць не магло. Таму, калі ў 1921 годзе па рашэнні 2-й Камуністычнай канферэнцыі жанчын было вырашана святкаваць Міжнародны жаночы дзень 8 сакавіка, бальшавікі гэта рашэнне папросту праігнаравалі!

Толькі 8 мая 1965 года 8 сакавіка быў абвешчаны ў СССР святочным і выхадным як Міжнародны жаночы дзень. Першае ягонае святкаванне, такім чынам, адбылося ў 1966 годзе.

Зразумела, тады ўжо ніхто не згадаў пра ролю жанчыны ў зруйнаванні царызму. А барацьбы жанчыны за свае правы ў такой дзяржаве, як СССР, па вызначэнні быць не магло. Вось і ператварылася баявое свята жанчын у «цукерачна-букетную» нагоду выпіць.

Дарэчы, і міжнародным гэты дзень не быў. Толькі ў 1975 годзе ААН прыняла рэзалюцыю 32/142 і абвясціла 8 сакавіка Міжнародным днём барацьбы за правы жанчын. Не «падарункавым днём», заўважце, а днём барацьбы за правы!

Восьмага сакавіка мы ў чарговы раз пачуем шмат дыфірамбаў ад усякіх уладных персаналіяў пра тое, што жанчыну трэба берагчы, што яна з'яўляецца найперш «пуцяводнай зоркай», маці, сяброўкай і калегай з вельмі вялікімі здольнасцямі. Як у часы СССР, усё гэта будзе спробай «купіць» жанчын і ніякім чынам не нагадаць пра іх вырашальную ролю ў падзеях сусветнай гісторыі. А тое, не дай Гасподзь, яны вырашаць, што нічым не горшыя за сваіх папярэднiц, і…

Асабліва небяспечна гэта ў сучаснай Беларусі. Бо становішча жанчын у нас ледзь не нагадвае сітуацыю 1857 года, пры тым, што жанчыны зараз ужо не тыя. Яны даўжэй жывуць (працягласць жыцця мужчын у Беларусі на 12 гадоў меншая, чым жанчын), яны больш адукаваныя (сярод беларусаў з вышэйшай адукацыяй 40% мужчын і 60% жанчын) і яны лепшыя спецыялісты (75% на рынку працы спецыялістаў — гэта жанчыны, а мужчыны ў асноўным — працоўны клас).

Тым не менш, па звестках старшыні грамадскага аб'яднання «Жаночы незалежны дэмакратычны рух» Людмілы Пецінай, у сферы кіраўніцтва ідзе «выцясненне жанчын». «За апошнія гады адбылося скарачэнне колькасці жанчын на кіруючых пасадах больш чым у пяць разоў. І працоўны вопыт, і адукацыйны ўзровень жанчын не прадстаўлены там, дзе прымаюцца галоўныя стратэгіі развіцця нашай краіны», — кажа Пеціна.

Можа, таму мы і жывем так, як жывем? Усе спробы вырашыць сітуацыю з'яўляюцца толькі прафанацыяй, а насамрэч нічога не робіцца. Наша краіна рэалізуе ўжо чацвёрты нацыянальны план па дасягненні гендэрнай роўнасці, і ні адзін з гэтых планаў не фінансаваўся з дзяржаўнага бюджэту і не быў выкананы. У нас няма закона аб роўных правах і роўных магчымасцях, у нас няма ўпаўнаважанага па правах жанчын або па гендэрнай роўнасці і практычна няма заканадаўства па прадухіленні хатняга гвалту.

Таму ўладзе трэба вельмі паклапаціцца пра тое, каб жанчыны пра гэта не даведаліся. І яна ўсяляк будзе прадукаваць 8 сакавіка як «цукерачна-букетнае свята», а не як свята жанчын, якія перакулілі свет.

АБОРТЫ

# ДАКТАРЫ АТРЫМАЮЦЬ СВАБОДУ ВЫБАРУ?

Вольга ХВОІН

**У беларускіх медыкаў можа з'явіцца права адмовіцца ад правядзення абортаў.**

Цяпер распрацоўваецца праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ахове здароўя». У ім прадугледжваецца права лекара на адмову ад правядзення штучнага перапынення цяжарнасці. Такая адмова будзе магчымай пры наяўнасці пісьмовага апавяшчэння кіраўніка арганізацыі аховы здароўя і толькі ў тым выпадку, калі адмова непасрэдна не пагражае жыццю жанчыны.

Намеснік дырэктара Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў РБ Макарэвіч паведаміў прадстаўнікам інфармацыйнага сайта Sobor.by, што «пры далейшай дапрацоўцы закона «Аб дапаможных рэпрадуктыўных тэхналогіях» будзе разгледжана прапанова аб замацаванні права лекара на адмову ад правядзення рэдукцыі». Пад «рэдукцыяй» маецца на ўвазе змяншэнне колькасці эмбрыёнаў, якія прыжыліся, шляхам іх знішчэння (часцей за ўсё, праколваецца іголкай сэрца эмбрыёна).

У Рэзалюцыі ПАСЕ № 1763 (2010) «Права на адмову па меркаваннях сумлення пры прадстаўленні легальнай медыцынскай дапамогі» гаворыцца: «Ні адна асоба, бальніца або ўстанова не павінны быць вымушаны, прыцягнуты да адказнасці або дыскрымінаваныя ў якой-небудзь форме за адмову ад выканання, прадстаўлення, дапамогі ў ажыццяўленні або правядзенні аборту, ажыццяўленні выкідыша ў чалавека або эўтаназіі або любога дзеяння, якое можа прывесці да смерці чалавечага плода або эмбрыёна, па любой прычыне».

Адкрытым застаецца і пытанне фінансавання перапынення цяжарнасці. Ідучы на аборт, жанчына плаціць толькі за наркоз, усе астатнія выдаткі аплачвае дзяржава.

НАРАДА

# АВЕЧАК НА ПАДВОРАК

Вольга ХВОІН

**У бліжэйшы час будзе распрацаваны праект праграмы, якая прадугледжвае павелічэнне пагалоўя авечак у гаспадарках краіны да 2016 года да 150 тысяч галоў (цяпер налічваецца 50 тысяч галоў).**

Мэтай праграмы з'яўляецца развіццё авечкагадоўлі дзеля задавальнення патрэбаў насельніцтва краіны ў поўсці, аўчыне, бараніне. Мерапрыемствы праграмы будуць накіраваны на задавальненне патрэбы насельніцтва ў высакаякасным маладняку авечак, забеспячэнне вытворчасці воўны ў аб'ёмах 410 тон, стварэнне беларускага шматплоднага напаўтанкарунната тыпу авечак, — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы Савета Міністраў.

Плануецца паэтапнае аднаўленне галіны. Да 2015 года ёсць намеры стварыць племянную базу ў мэтах забеспячэння гаспадарак рамонтным пагалоўем. Паралельна будзе створана матэрыяльна-тэхнічная база, сучасныя прадпрыемствы па першаснай перапрацоўцы воўны, сістэма падрыхтоўкі кадраў для галіны. У прыватнасці, у тыпавыя праграмы навучальных планаў устаноў вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі будзе ўключана падрыхтоўка спецыялістаў заатэхнічны профілю па спецыялізацыі «авечкагадоўля». На першым этапе прадугледжваецца завоз племяннога пагалоўя з-за мяжы. Другім этапам стане развіццё таварнага вытворчасці з выхадам на пагалоўе авечак у 100–150 тысяч.

Каб забяспечыць эканамічны складнік галіны, разглядаюцца магчымасці рэалізацыі мяса і скур, а таксама развіццё кушнерскай галіны. У сістэму авечкагадоўлі плануецца актыўна прыцягваць фермерскія гаспадаркі і асабістыя гаспадаркі грамадзян. Па словах Мясніковіча, з падтрымкай дзяржавы будзе ажыццяўляцца набыццё маладняку, племянная работа, ветэрынарнае абслугоўванне. Мяркуецца, што будуць распрацаваны эканамічныя стымулы, каб гэты від жывёлагадоўлі прыярытэтна развіваўся ў прыватных фермерскіх гаспадарках.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ПРАЕКТЫ ГРАМАДСКАСЦІ — НА ЭКСПЕРТЫЗУ

Марат ГАРАВЫ

**Адміністрацыя Цэнтральнага раёна Мінска накіруе на экспертызу ў Інстытут гісторыі і Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы НАН праектныя прапановы грамадскасці па Гістарычным цэнтры Мінска (ГЦМ).**

Пра гэта гаворыцца ў лісце намесніка кіраўніка адміністрацыі Цэнтральнага раёна сталіцы Дзмітрыя Ляшчынскага старшыні Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антону Астаповічу.

«Вамі прапануецца фактычна перапісаць гісторыю горада, знішчыўшы ўсё, створанае ў цэнтры пасля 1945 года, і выбудаваць замест гэтага муляж у натуральную велічыню цэнтра Мінска канца XIX — пачатку XX стагоддзяў. Такія радыкальныя рэканструкцыі гістарычнай спадчыны сусветная практыка не ведае, тым больш, што ні адно збудаванне, прапанаванае да аднаўлення, не ўяўляла гістарычнай каштоўнасці і не знаходзілася пад аховай дзяржавы. Аднаўляць іх прапануецца па вельмі схематычных архіўных дакументах», — падкрэсліваецца ў лісце, падрыхтаваным Міхаілам Жыхам — галоўным інжынерам КУП «Мінская спадчына».

У каментары НЧ Антон Астаповіч заявіў, што лічыць абвінавачванні чыноўнікаў беспадстаўнымі. «Прыклады маштабнага аднаўлення цэлых кварталаў страчанай шараговай гарадской забудовы можна назіраць на тэрыторыі нашай суседкі Польшчы, дзе пасля Другой сусветнай вайны з руін былі адроджаныя гістарычныя цэнтры Варшавы, Гданьску, Вроцлаву, Казімежа-Дольнага і Замосця. Пасля разбурэння ад паветраных бамбардзіровак паўстала з руін культавая і шараговая забудова больш за 90 германскіх гарадоў, прычым да гэтага часу вядуцца маштабныя працы па аднаўленні кварталаў горада Дрэздэн», — сказаў Астаповіч.

На ягонае меркаванне, амаральна і некарэктна прад'яўляць прэтэнзіі ў адсутнасці навуковага падыходу, калі ігнаруюцца асноўныя прававыя і метадычныя прынцыпы падчас працы на аб'ектах ГЦМ. «Таму ліст з адміністрацыі Цэнтральнага раёна сталіцы толькі сведчыць пра ўзровень адукацыі і прававой культуры людзей, якія прымаюць рашэнні адносна ГЦМ. У гэтым і ёсць трагедыя айчыннай гісторыка-культурнай спадчыны. Пра гэта сведчыць і намер адправіць нашы праекты на экспертызу ў акадэмію, дзе няма спецыялістаў па рэстаўрацыі і рэгенерацыі гістарычных тэрыторый», — адзначыў Астаповіч.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ДЭЛЕГАЦЫЯ БДІПЧ СУСТРЭЛАСЯ З ГРАМАДСКАСЦЮ

Генадзь КЕСНЕР

**Кіраўнік юрыдычнай камісіі Беларускага Хельсінскага камітэта Гары Паганяйла, намеснік старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) Андрэй Бастунец і сябра рады Праваабарончага цэнтру «Вясна» Уладзімір Лабковіч 5 сакавіка сустрэліся з прадстаўнікамі Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ.**

У Мінску знаходзяцца старшы дарадца па выбарах БДІПЧ АБСЕ Таццяна Багусевіч, а таксама дарадца па выбарах Лусіне Бадалян. У праграме візіту былі запланаваныя сустрэчы як з прадстаўнікамі ўладных структураў (Цэнтрвыбаркам і Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу), так і з рэпрэзентантамі грамадзянскай супольнасці і палітычнай апазіцыі.

Так склалася, што ў першы дзень наведвання Беларусі дэлегацыя БДІПЧ АБСЕ сустрэлася з праваабаронцамі і журналістамі. Як распавёў «Новаму часу» Андрэй Бастунец, прадстаўнікі БДІПЧ прыехалі ў Беларусь, каб высветліць стаўленне розных суб'ектаў да тых рэкамендацыяў, якія Бюро выпрацавала пасля апошніх выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, а таксама азнаёміцца з тымі зменамі, якія прапануецца ўнесці ў выбарчае заканадаўства.

«Таццяна Багусевіч падкрэсліла, што пытанні свабоды выказванняў з'яўляюцца адными з самых важных падчас правядзення выбараў. Мы таксама абмяркоўвалі праблемы, звязаныя з заканадаўствам аб СМІ, у тым ліку і тыя прапановы па зменах у гэтае заканадаўства, якія БАЖ уносіў на пачатку бягучага года і якія, на вялікі жаль, не толькі не былі разгледжаныя, але нават заклік да абмеркавання гэтых прапановаў не знайшоў водгуку ў Палаце прадстаўнікоў, — адзначыў намеснік кіраўніка БАЖ. — Там было пятнаццаць рэкамендацыяў, якія тычыліся, напрыклад, статуса журналіста, у тым ліку, статуса журналіста-фрылансера, доступу да інфармацыі, акрэдытавання карэспандэнтаў, у першую чаргу, замежных сродкаў масавай інфармацыі. А таксама пытанні закрыцця СМІ, тых празмерных паўнамоцтваў, якія сёння мае Міністэрства інфармацыі і якія дазваляюць зачыняць СМІ пасля двух папярэджанняў цягам года незалежна ад цяжкасці парушэнняў».

Увогуле, паведаміў Андрэй Бастунец, падчас сустрэчы ўздымалася пытанне магчымасці альбо немагчымасці абмеркавання ўзніклых праблем з уладамі улады. Па словах намесніка старшыні БАЖ, такія візіты сведчаць, што сітуацыя ў Беларусі не з'яўляецца «жалезабетоннай», што магчымыя перамены. «Але гэтыя перамены залежаць не ад нейкіх прававых момантаў, але ад палітычных», — падкрэсліў Андрэй Бастунец.

ХРОНІКА

# ХВАЛЯ САЛІДАРНАСЦІ ПЕРАВАЛІЛА ЭКВАТАР

Сяргей ПУЛЬША

**«Хваля салідарнасці» з палітвязнямі БХД прайшла больш за палову шляху.**

На тыдні гомельскія актывісты БХД распачалі серыю акцый салідарнасці з беларускімі палітычнымі зняволенымі. Яны раздалі на гарадскіх рынках Гомеля ўлёткі з партрэтамі 14 палітвязняў і адрасамі турмаў, дзе іх трымаюць, і запрашалі грамадзян напісаць лісты палітвязням. Гэтыя ж улёткі былі распаўсюджаныя і па паштовых скрынях.

Паўдзясяткі актывістаў БХД таксама наведалі 9-ы кіламетр Чарнігаўскай шашы, дзе ўсталяваны пакутны крыж памяці нявінна расстраляных грамадзян у часы сталінскіх рэпрэсій. Яны трымалі партрэты цяперашніх палітвязняў, сцяг БХД і прачыталі малітву.

Каардынатар БХД у рэгіёне Юры Клімовіч паведаміў, што «Хваля салідарнасці» пройдзе таксама ў Мазыры, Калінкавічах, Рэчыцы, Светлагорску.

У Воршы актывісты распаўсюдзілі па горадзе некалькі дзясяткаў улёткаў з партрэтамі палітвязняў.

5 сакавіка, у 60-я ўгодкі смерці Сталіна, чаргу «Хвалі салідарнасці» пераняў Барысаў. Мясцовыя актывісты БХД, БНФ, АГП сабраліся на вечарыну, прысвечаную беларускім палітвязням трох эпох і трох рэжымаў: Расійскай імперыі, СССР і цяперашняй Рэспублікі Беларусь. Напачатку ўдзельнікі вечарыны пaглядзелі ўрыўкі з фільмаў, прысвечаных савецкім рэпрэсіям. Затым яны ўзгадалі паўстанне 1863 года супраць Расійскай імперыі, якое распачалося 150 гадоў таму і было жорстка задушанае маскоўскімі войскамі пад кіраўніцтвам генерал-губернатара Мікалая Мураўёва. Удзельнікі сустрэчы напісалі ўсебеларускую дыктоўку паводле ўрыўка з «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага. Тэксты дыктовак было вырашана адаслаць у беларускія турмы па адрасах цяперашніх беларускіх палітвязняў разам з паштоўкамі, якія актывісты падпісалі напрыканцы вечарыны. Асабліва барысаўцы ўзгадалі свайго земляка Аляксандра Маўчанава.

Адказны сакратар аргкамітэта па стварэнні БХД Дзяніс Садоўскі зазначыў, што акцыі ў рамках марафона «Хваля салідарнасці» ўжо адбыліся ў 19 гарадах Беларусі. «Пасля паловы пройдзенага шляху, можна з упэўненасцю сказаць, што мэту, якую мы ставілі, — абвастрыць пытанне вызвалення палітычных вязняў як унутры Беларусі так і за яе межамі, — паступова дасягаецца. Таксама дзякуючы вялікай колькасці распаўсюджаных друкаваных матэрыялаў, шмат беларусаў даведаліся пра існаванне палітвязняў і, я спадзяюся, шмат хто з іх адгукнецца на наш заклік і напіша лісты падтрымкі вязням сумлення», — сказаў Садоўскі.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# У ЧАКАННІ ВЯСНЫ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларусы цярпліва чакаюць вясну. Па календары яна нібыта надышла. У бліжэйшыя выходныя — Масленіца сумесна з Міжнародным жаночым днём. Усім зараз хочацца цяпла і сонца. Усе вылучаюць толькі пазітыў.**

Але гэта не значыць, што ніхто нічога не робіць. Напрыклад, мытныя ведамствы Беларусі, Расіі і Казахстана падрыхтавалі змены і дапаўненні ў Мытны кодэкс Мытнага саюза. Насуперак чаканням, нічога дрэннага, кшталту падвышэння пошлінаў на аўтамабілі, як у 2011 годзе, здаецца, у ім няма. Прынамсі, начальнік упраўлення арганізацыі мытнага кантролю ДМК Уладзімір Арлоўскі паведаміў, што падрыхтаваныя мытнымі ведамствамі змены не закрануць нормаў па ўвозу — вывазу грамадзянамі тавараў для асабістага карыстання.

«У бліжэйшы час нейкіх зменаў нормаў увозу або вывазу грамадзянамі тавараў для асабістага карыстання не адбудзецца», — паведаміў ён. Адначасова ён нагадаў, што нормы ўвозу ці вывазу грамадзянамі тавараў для асабістага карыстання праз мяжу Мытнага саюза ўстаноўлены адпаведным міжурадавым пагадненнем і вызначаюць, якая колькасць бытавой тэхнікі, алкаголю, тытунёвых вырабаў і іншых тавараў, а таксама валюты грамадзянін можа перамясціць бяспошлінна.

Такім чынам, на «закупы» ў Польшчу, Літву ці Украіну можна будзе ездзіць па ранейшых правілах. Гэта ўжо радуе звыклых да дрэнных навінаў беларусаў.

Яшчэ цікава тое, што некаторыя беларускія грамадзяне пачалі ацэньваць вартасць грошай. Прыкладам, шмат у каго раней узнікала занепакоенасць у сувязі з тым, што ў Беларусі адкрываецца шмат казіно. Зразумела, гэта было зроблена для таго, каб тут свае грошы пакідалі расіяне. Але былі і такія галасы, быццам «расійскія алігархі саджаюць на гульнявую іглу слабавольных беларусаў». Лухта гэта ўсё. Беларусы аказаліся значна лепшымі, чым пра іх думалі.

Паводле звестак Міністэрства падаткаў і збораў Беларусі, толькі ў лютым гэтага года больш за тысячу грамадзян сінявокай добраахвотна «забаранілі самім сабе» наведваць ігральныя ўстановы. Адпаведныя заявы яны накіравалі ў падатковыя органы. «За месяц да нас паступіла больш за 1 тысячу заяў грамадзян, якія прынялі рашэнне абмежаваць сябе ў наведванні ігральных установаў на тэрмін ад шасці месяцаў да трох гадоў», — паведаміў прадстаўнік МПЗ Уладзімір Муквіч.

Такая «самастойная забарона» — гэта своеасаблівая «падшыўка» ад іграманіі. Чалавека, які такую заяву напісаў, на тэрмін дзеяння заявы ў казіно не пусцяць. Прычым, па словах Муквіча, «назад дарогі няма, механізм зваротнага ходу не мае, заява перастане дзейнічаць не раней, чым скончыцца названы ў ёй тэрмін самаабмежавання».

Вось дзе ў людзей сіла волі! Самі не пойдуць гуляць, дык яшчэ і прымусяць уладныя органы пракантраляваць гэты працэс!

Між тым, на 1 студзеня 2013 года ліцэнзіі на права ажыццяўлення дзейнасці ў сферы ігральнага бізнэсу мелі 118 юрыдычных асоб. У мінулым годзе бюджэт атрымаў 238 мільярдаў рублёў падатку на ігральны бізнэс.

Але ігральны бізнэс можа быць і іншым. Няглядзячы на тое, што яшчэ Астап Бендэр папярэджваў не гуляць у азартныя гульні з дзяржавай, менавіта гэтай гульнёй занялася насельніцтва. Як паведаміла Міністэрства фінансаў, на 1 сакавіка 2013 года беларусы набылі 52,5% дзяржаўных валютных аблігацый трэцяга выпуску ад 26,3 мільёна долараў. Акрамя таго, па стане на 28 лютага 2013 года ў поўным аб'ёме (аж на 50 мільёнаў долараў!!!) размешчаны дзяржаўныя валютныя аблігацыі для насельніцтва першага і другога выпускаў.

Размяшчаць валютныя аблігацыі для насельніцтва Мінфін Беларусі пачаў з 20 снежня 2012 года, прапанаваўшы два выпускі з тэрмінам звароту адзін год. Гэтыя выпускі адрозніваліся наміналам — 200 і 1 000 долараў. Можа, беларусы падумалі, што за год з грашыма нічога не здарыцца?

Дык не ж. Трэці выпуск Мінфін размяшчае з 20 студзеня 2013 года, тэрмін па ім павялічаны да двух гадоў, а намінал складае 1 000 долараў. Як ні дзіўна, але аблігацыі «памерам» у 200 «зялёных» не карысталіся попытам!

Вось і думай, што такога цікавага прапанаваў урад людзям. Няўжо стаўка ў 7% гадавых такая прываблівая? Валютныя ўклады ў банках таксама маюць прыблізна такі ж памер стаўкі. Але ж туды грошыкі беларусы не нясуць, а чамусьці «купляюць дзяржаўнае»…

Можа, паспрабаваць з гэтымі аблігацыямі на знешні рынак выйсці? Там, кажуць, у швейцарскіх банках толькі 4% гадавых даюць.

А вось некаторым на заробленыя працэнты не хапала б дакупіць мазгоў. Не, не аператыўнай памяці кампутара. Так, былы генпракурор краіны, а зараз загадчык кафедры канстытуцыйнага права БДУ Рыгор Васілевіч, выказаў меркаванне, што за нявыкананыя паказчыкі сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны чыноўнікаў трэба саджаць у турму. «Пытацца з іх трэба за гэтыя паказчыкі! Людзі прыязджаюць у гэтыя рэгіёны ці наадварот — з'язджаюць, працягласць жыцця тут павялічваецца ці памяншаецца, нараджальнасць павялічваецца альбо не. А калі прыцягнулі да адказнасці нейкага чалавека, накіравалі яго ў калонію — хай гэты рэгіён са свайго бюджэту плаціць за ўтрыманне гэтага чалавека!» — заявіў Васілевіч «Еўрарадыё».

На яго меркаванне, калі ўвесь час чыноўнікаў пытацца пра гэтыя паказчыкі, дык яны будуць старацца неяк сітуацыю выправіць.

Ці вядома яму, што смяротнасць у Беларусі пераўзыходзіць нараджальнасць ад 1994 года? Ці вядома яму, колькі людзей апошнім часам з'ехалі працаваць у Расію? Што сярэдняя працягласць жыцця ўжо два гады трымаецца на адным узроўні — 70 гадоў. Хто за гэта адказны? Няўжо той чыноўнік, які ўжо ад 1994 года кіруе краінай?

На пасадзе генпракурора і на пасадзе старшыні Канстытуцыйнага суда спадар Васілевіч, дарэчы, меў паўнамоцтвы па прыцягненні да адказнасці чыноўнікаў, у тым ліку і за невыкананне прагнозных паказчыкаў. Але тады ён не быў такім смелым. А зараз, як пайшоў з уладных органаў, стаў патрабаваць чыноўнікаў да адказнасці прыцягваць. Раней пачынаць трэба было!



## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### МІХАІЛ ТУМЕЛЯ



Анімацыйная стужка беларускага рэжысёра Міхаіла Тумелі «Як служыў я ў пана» з цыклу «Музычная шкатулка» атрымала прыз журы ў намінацыі на лепшае гукавое рашэнне «За музычную драматургію» на 18-м Адкрытым расійскім фестывалі анімацыйнага кіно ў Суздалі.

«Як служыў я ў пана» — экранізацыя вядомай беларускай песні пра работніка, які вырашыў наладзіць уласную гаспадарку, а для гэтага наняўся на службу да багатага пана. Фільм зроблены ў стылі традыцыйнай папяровай «выцінанкі».

Дыпломам журы «За тапаграфію казачнасці» таксама адзначаны беларускі мультфільм «Піліпка» рэжысёра Таццяны Кубліцкай. Гран-пры фестывалю атрымала стужка «Бессмяротны» расійскага рэжысёра Міхаіла Алдашына.

Усяго на конкурс было прадстаўлена пяць работ беларускіх аніматараў: стужкі «Беларусьфільма» «Белоснежка и Алоцветик» (Е. Пяткевіч, 2012), «Як хацела мяне маці замуж выдаць» (цыкл «Музычная шкатулка», В. Пяткевіч, 2012), «Як служыў я ў пана» (М. Тумеля, цыкл «Музычная шкатулка», 2012), «Піліпка» (Т. Кублицкая, 2012), «Ясны Сокал» (І. Кадзюкова, 2012).



### АНДРЭЙ АРАМНАЎ

Алімпійскі чэмпіён Пекіна–2008 па цяжкай атлетыцы Андрэй Арамнаў заняў другое месца ў вагавой катэгорыі звыш 105 кілаграмаў на Кубку Беларусі па цяжкай атлетыцы.

Пяць гадоў таму беларускі спартсмен стаў алімпійскім чэмпіёнам у вазе да 105 кілаграмаў. Тады па ходу спаборніцтваў Арамнаў устанавіў тры сусветныя рэкорды. Спачатку ён палепшыў планетарнае дасягненне ў рыўку, падняўшы 200 кілаграмаў, у другім практыкаванні — штуршку — у заключнай спробе ён узяў яшчэ адну рэкордную вагу — 236 кілаграмаў і ў суме двубор'я набраў 436 кілаграмаў, што таксама з'явілася на той момант новым сусветным рэкордам. У параўнанні са сваім алімпійскім дасягненнем зараз Андрэй Арамнаў здолеў падняць на 15 кілаграмаў менш.

На Алімпіядзе–2012 у Лондане Андрэй Арамнаў не выступаў з-за траўмы, атрыманай падчас адборачных спаборніцтваў на галоўны старт чатырохгоддзя. Цягам апошніх год Андрэй Арамнаў неаднаразова трапляў у непрыемныя гісторыі. Работнікі ДАІ Беларусі затрымлівалі атлета за кіраванне аўтамабілем у нецвярозым стане. Спартсмен быў пазбаўлены вадзіцельскіх правоў, прэзідэнцкай стыпендыі (часова), аштрафаваны. У дадатак да ўсяго паведамлялася пра выяўленне ў яго арганізме слядоў канабіноідаў падчас даследавання допінг-пробаў, узятых на мінскім чэмпіянаце Еўропы–2010 па цяжкай атлетыцы. Таксама спартовец увесь час канфліктаваў з былым галоўным трэнерам нацыянальнай каманды Беларусі па цяжкай атлетыцы Аляксандрам Ганчаровым, які сышоў у адстаўку з пасады ў студзені 2013 года.

### СЯМЁН ШАПІРА



Звольніць аўтара нашумелай кнігі «Гродназнаўства» загадаў старшыня гродзенскага аблвыканкаму Сямён Шапіра, паведамляе тэлеканал Белсат. Пра гэта распавёў сам чыноўнік падчас сустрэчы з выкладчыкамі і супрацоўнікамі Гродзенскага ўніверсітэту.

«Наконт Чарнякевіча прымаў загад я асабіста», — раскрыў таямніцу звальнення гісторыка і дацэнта ГрДУ Андрэя Чарнякевіча Сямён Шапіра.

У сваім выступленні ён пахваліў універсітэт за тэхналагічныя дасягненні і раскрытыкаваў за хібы ў ідэалагічнай працы. Пра гэта «Белсату» распавяла адна з прысутных на сустрэчы ў ГрДУ. «Напісалі падручнік і надрукавалі за мяжой. За чые грошы? — Выступаў галоўны чыноўнік Гродзеншчыны. — Не, каб да мяне прыйсці і пагаварыць!»

Шапіра ўпікнуў былога рэктара Яўгена Роўбу, што той марудзіў са звальненнем Андрэя Чарнякевіча быццам праз сваё знаёмства з бацькам гісторыка, які таксама працаваў у купалаўскім універсітэце. Старшыня аблвыканкаму прызнаўся, што ён уласнаручна даў загад звольніць аднаго з аўтараў падручніка «Гродназнаўства» Андрэя Чарнякевіча.

Сямён Шапіра таксама падзяліўся з прысутнымі, што рэгулярна чытае зводкі КДБ і ведае ўсё: «Ва ўніверсітэце 16 чалавек, якія заклікаюць зрынуць уладу».

Скандал з падручнікам «Гродназнаўства» разгарэўся летась у верасні, калі з фармулёўкаю «за парушэнне працоўнай дысцыпліны» з ГрДУ звольнілі аднаго з аўтараў — Андрэя Чарнякевіча. За 2 дні да звальнення выкладчыка тэрміновa выклікаў да сябе загадчык цэнтру кадравай і праваой работы ўніверсітэта. Падчас размовы ў кабінеце прысутнічалі загадчык аддзелу бяспекі ўніверсітэта і супрацоўнік КДБ. Галоўнай тэмай размовы быў падручнік «Гродназнаўства».

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# РЭКВІЕМ ПА МАДЭРНІЗАЦЫІ

Сяргей НІКАЛЮК

**Да канца *«переломного года»* застаецца яшчэ дзесяць месяцаў, але ў асноўным яго выніку ўжо сумнявацца не даводзіцца.**

Дэмакратыі ў Беларусі не менш, чым на Захадзе. Здавалася б, за гэтай тэзай ужо даўно замацаваўся статус аксіёмы, г. зн. ісціны, якая не патрабуе доказаў. Тым не менш адзіны палітык (АП), які па сумяшчальніцтву выконвае ролю гаранта Канстытуцыі, лічыць сваім абавязкам перыядычна пра гэта нагадваць. Лютаўская нарада Савета па развіцці прадпрымальніцтва дала яму такую магчымасць, і ён яе скарыстаў: *«Хочу подчеркнуть: если кто-то из бизнесменов будет финансировать «пятую колонну» или каким-то иным способом оказывать негативное влияние на общество, то я буду считать, что они включились в политическую борьбу, в борьбу против государства. А там — свои законы. Потом пусть не обижаются подобные бизнесмены»*.

## І суверэн і ўласнік

Кожны сказ прыведзенай цытаты варты каментара. Пачну з першага. «Дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і поглядаў» (Канстытуцыя РБ, артыкул 4). «Адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца народ. Народ ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна, праз прадстаўнічыя і іншыя органы ў формах і межах, вызначаных Канстытуцыяй» (артыкул 3).

З прыведзеных цытат вынікае банальная выснова: ніякіх уласных інтарэсаў у беларускай дзяржавы няма і быць не можа. Яна — толькі прылада для ўзгаднення разнастайных ідэалогій і меркаванняў. Няма адзінага інтарэсу і ў беларускага народа. Не трэба блытаць сучаснае грамадства з грамадствам эпохі неаліту.

Звернемся да слоўніка азбукавых паліталагічных ісцін. Сінкрэзіс (ад грэчаскага «злучэнне») — стан грамадства і культуры, калі ўсё пераплецена з усім і нішто не адасобілася. Прыклад: першабытныя грамадствы, у якіх не вылучаліся сацыяльныя ролі, прафесіі, не было сям'і, прыватнай уласнасці і г.д. Яшчэ адзін прыклад: СССР з яго партыйнай «вертыкаллю», якая падмяла пад сябе заканадаўчую, выканаўчую і судовую ўлады.

Тое, што мы называем «праграсам», ёсць працэс здрабнення першапачатковага сінкрэзісу. «На Усходзе ён ішоў павольней. Культура Усходу блакавала і запавольвала працэсы здрабнення сінкрэзісу. На Захадзе — выключна энергічна. Таму Захад і спрадзіў у выніку гістарычную дынаміку» (Ігар Якавенка).

У Беларусі з дынамікай узаемадачыненні складаныя. Сам факт наяўнасці АП блакуе разбурэнне палітычнага сінкрэзісу, і таму сучасная беларуская дзяржава (не дэ-юрэ, а дэ-факта) мала чым адрозніваецца ад вотчыны часоў Кіеўскай Русі. Звярнуся да самацытавання: «Князі Кіеўскай Русі кіравалі сваімі княствамі гэтак жа, як і сваімі княжымі дварамі. Палітычную ўладу яны разумелі і здзяйснялі як працяг права ўласнасці. Яны былі адначасова і суверэнамі сваіх княстваў (дзяржаў), і іх уласнікамі» (гл. Азбуку паліталогіі «Экскурс у гісторыю з Рычардам Пайпсам»).

Не даводзіцца сумнявацца, што полацкі князь Рагвалод расцэньваў любыя спробы фінансавання багатымі гараджанамі сваіх палітычных апанентаў («пятай калоны») як замах на асновы дзяржавы. У поўнай адпаведнасці з вотчыннай логікай, сябе ён не аддзяляў ад дзяржавы, і ўжо ў сілу гэтага быў вымушаны праводзіць выразную мяжу паміж барацьбой за ўладу і камерцыйнай дзейнасцю.




## «Будзем велікадушныя»

Прырода міждысцыплінарная, і таму мяжа паміж эканамічнымі і палітычнымі інтарэсамі вельмі ўмоўная. Першых не бывае без другіх, а другіх без першых. Каб распаўсюдзіць гэта правіла не толькі на абраных, але і на грамадства ў цэлым, Еўропе давялося прайсці праз мноства буржуазных рэвалюцый. Але Беларусь яны абышлі бокам. Адсюль наша ўнікальнасць, наша імкненне *«жить своим умом»*, г. зн. у адпаведнасці з архаічнымі нормамі вотчыннага права.

Звернемся да «Маніфеста камуністычнай партыі» Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса: «Буржуазія адыграла ў гісторы надзвычайную рэвалюцыйную ролю. Буржуазія паўсюдна, дзе яна дасягнула панавання, разбурыла ўсе феадальныя, патрыярхальныя, ідылічныя стасункі». Гэта напісана ў 1848 годзе, але актуальнасці сваёй дагэтуль не страціла, прынамсі, у геаграфічным цэнтры Еўропы!

Прашу прабачэння ў чытачоў, але я вымушаны прывесці яшчэ дзве цытаты: «Буржуазія не можа існаваць і пры гэтым увесь час не выклікаць пераваротаў у прыладах вытворчасці, адпаведна, не рэвалюцыянізаваць вытворчых адносін, а такім чынам, і ўсёй сукупнасці грамадскіх адносін».

«Буржуазія хуткім удасканаленнем усіх прылад вытворчасці і бясконцым спрашчэннем сродкаў камунікацыі далучае да цывілізацыі ўсе, нават самыя варварскія, нацыі. Танны кошт яе тавараў — вось тая цяжкая артылерыя, з дапамогай якой яна руйнуе ўсе кітайскія сцены і прымушае да капітуляцыі самую зацятую нянавісць варвараў да замежнікаў. Пад страхам пагібелі прымушае яна ўсе нацыі прыняць буржуазны спосаб вытворчасці, прымушае іх уводзіць у сябе так званую цывілізацыю, г. зн. станавіцца буржуа. Словам, яна стварае сабе свет на свой вобраз і паводле свайго падабенства».

> Еўропе давялося прайсці праз мноства буржуазных рэвалюцый. Але Беларусь яны абышлі бокам. Адсюль наша ўнікальнасць, наша імкненне «жить своим умом», у адпаведнасці з архаічнымі нормамі вотчыннага права

Дзякуй класікам за дапамогу ў разуменні беларускай унікальнасці. Яна — у фенаменальнай здольнасці супрацьўляцца ўваходжанню ў заходнюю (буржуазную) цывілізацыю. Таму айчынныя прадпрымальнікі (буржуа), гэтак жа, як трэцяе саслоўе ў Францыі пры каралях Людовіках, фактычна пазбаўленыя палітычных правоў. Палітыка ў Беларусі — гэта вотчына АП, у якой дзейнічаюць *«свои законы»*. Хто гэтага не разумее, хай наракае на сябе.

Але вернемся да Маркса—Энгельса. Перш чым выраблялі танныя тавары, буржуа павінны рэвалюцыянізаваць усю сукупнасць грамадскіх адносін, у тым ліку і свае адносіны з дзяржавай, якая павінна стаць буржуазнай.

Беларуская дзяржава такой не стала і станавіцца не збіраецца. У асобе АП яна размаўляе з кіраўнікамі прадпрымальніцкіх саюзаў, як князі Кіеўскай Русі са сваімі халопамі: *«Никто не говорит, что у вас надо забрать последнее. Поэтому давайте будем великодушны (!). <...> Вы меня не упрекнете, что я кого-то из бизнесменов в стране насильно заставлял помогать государству. Можете — помогите, не можете — Господь с вами. Соответствующее будет отношение со стороны государства и меня к вам»*.

## Павінен, але не дае

Яшчэ адна цытата. Гэтым разам з тэксту афіцыйнага прэсрэлізу: *«Глава государства отметил, что предприниматели — не те люди, которым надо создавать льготные и тепличные условия»*. Нечаканая заява. Яшчэ 2007 годзе перад чыноўнікамі была пастаўлена задача заняць у рэйтынгу Сусветнага банка (Doing Business) месца не ніжэй за 30-е. З тых часоў без развагі на тэму *«предоставления самых выгодных условий инвесторам»*, мабыць, не абышлося ніводнага штогадовага паслання.

У адрозненні ад эканомікі Паўночнай Карэі і Кубы, узровень адкрытасці беларускай эканомікі — адзін з самых высокіх у свеце (суадносіны экспарту да ВУП у 2012 годзе склалі 82%!). «Сучасная эканоміка, — піша эканаміст Сяргей Аляксашанка, — вельмі канкурэнтная. Сучасны капітал — ён досыць лёгка мігруе з краіны ў краіну і наогул прымае да ўвагі мноства фактараў, дзе яму развіваць бізнэс. І вось краіны заклапочаныя тым, што ўсё жадаюць бачыць працоўныя месцы ў сябе. Усё хочуць, каб там іх эканоміка выпрабляла валавы ўнутраны прадукт, каб там заставаліся падаткі, ну і каб там плаціліся зарплаты».

Сучасныя інвестары — капрызныя і лёгкія на ўздым. Пастаўце сябе на іх месца. Хіба вы будзіце рызыкаваць сваімі кроўнымі "тугрыкамі" ў краіне, у якой бізнэсу не ствараюцца *«льготные и тепличные условия»?* Перш, чым адзін раз адрэзаць, вы сем разоў мераеце, і пры гэтым будзеце арыентавацца не на рэкламныя заклікі, а на ўмовы, створаныя дзяржавай для мясцовых бізнэсмэнаў.

13 лютага міністр эканомікі Мікалай Снапкоў выступіў з дакладам на пасяджэнні ўрада. Даклад падрабязна каментаваўся ў прэсе, таму не буду паўтараць. Адзначу толькі тое, што ў дакладзе адсутнічае: на 21 старонцы дакладу ні разу не згадваецца прыватны бізнэс. Вось такая адна з фундаментальных асаблівасцяў *«беларускай эканамічнай мадэлі развіцця»*, мэтай якой, на думку міністра, з'яўляецца *«качественный экономический рост страны, то есть рост без проявления дисбалансов; и на этой основе — повышение доходов населения»*.

Адказнымі за выкананне такой высакароднай мэты ў нас, як вядома, з'яўляюцца чыноўнікі. Пра дасягнутыя імі поспехі на пасяджэнні ўраду паінфармаваў прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч: за сем гадоў у прамысловасць было накіравана 31,5 мільярда долараў, і гэтыя ўкладанні далі 19,2 мільярда прыросту дададзенага кошту. Планаваўся ж прынцыпова іншы вынік: *«каждый вложенный рубль инвестиций должен давать два–три рубля добавленной стоимости»*.

Павінен, але не дае. Прычыны такой неабавязковасці ўкладзеных у эканоміку рублёў прэм'ер-міністр аналізаваць не стаў і адразу перайшоў да пераліку прыярытэтаў, з улікам якіх неабходна праводзіць мадэрнізацыю. Асноўную ўвагу пры гэтым ён надаў стымуляванню *«директорского корпуса региональных и республиканских руководителей»* шляхам збалансаванага выкарыстання пугі і перніка (*«жесточайшего спроса»* і *«поощрения, активно участвующих в вопросах модернизации»*).

Ці дапаможа такая збалансаванасць дасягнуць пералічаных вышэй мэтаў — стане ясна ўжо да канца года. Хоць з верагоднасцю ў 99,9% вынік можна прадказаць ужо сёння. Як тут ні прыгадаць класіка эканамічнай навукі Адама Сміта: «Відавочна, што кожны чалавек, у залежнасці ад мясцовых умоваў, можа значна лепш вырашыць, да якога менавіта капіталу айчыннай прамысловасці прыкласці свой капітал і прадукт якой прамысловасці можа валодаць найбольшым коштам, чым тое зрабіў бы замест яго любы дзяржаўны дзеяч».

ПРАГНОЗЫ І ПАКАЗЧЫКІ

# УРАД НЕ ВЫНЕСЕ ДВАІХ

Сяргей ПУЛЬША

**Публічны «разнос» урада ўсё ж такі адбыўся. Незалежныя эканамісты прагназавалі яго паўгода таму, калі стала зусім зразумела, што прагнозныя паказчыкі па ВУП выканаць немагчыма.**



Выступаючы на пасяджэнні Савета Міністраў, Лукашэнка заявіў, што «сітуацыя, якая ў нас склалася ў мінулым годзе, катэгарычна недапушчальная ў гэтым годзе!» Паводле яго слоў, паўтарэнне мінулага года будзе азначаць неадкладную адстаўку ўрада. Ён нагадаў, што прычына такога разносу не толькі эканамічная, але і палітычная. «Важна вызначыцца і, вызначыўшыся, папрацаваць так, каб праз два — два з паловай гады, калі мы збяромся перад усім народам на Усебеларускі народны сход, не так было сорамна», — удакладніў ён задачу ўрада.

У Беларусі ў 2012 годзе не забяспечана выкананне 5 з 12 найважнейшых параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця: па ВУП, які склаў 1,5% замест прагназаваных 5,5%, прадукцыі прамысловасці, зніжэнні ўзроўню матэрыялаёмістасці ў прамысловасці, энергаёмістасці ВУП і прыцягненні прамых замежных інвестыцый. Практычна ўсе вобласці не дасягнулі прагнозных значэнняў па росту валавога рэгіянальнага прадукту, а Мінск нават не выйшаў на ўзровень 2011 года (96% пры прагнозе 104,5%).

Зразумела, гэта не задавальняе прэзідэнта. Тым больш, у сувязі з яскравай «палітычнасцю» пытання росту беларускай эканомікі.

Што можна сказаць пра ўрад Мясніковіча? Пэўна, там сабраліся альбо выключныя альтруісты, альбо людзі з цягай да самагубства. Паказчыкі, якія агучваліся на 2012 год, былі недасягальныя. Недасяжныя зараз і паказчыкі, выпрацаваныя на Усебеларускім сходзе ў 2010 годзе, пра якія казаў кіраўнік краіны. «Беларусь павінна ўвайсці ў лік першых 50 краін свету з найвышэйшым індэксам развіцця чалавечага патэнцыялу», — замацавана ў рэзалюцыі Усебеларускага сходу.

Толькі ў рэзалюцыі не казалася, дзе на ўсё гэта ўзяць грошы.

Лукашэнка жа ўраду не тое што не дапамагае, а здаецца, наўпрост перашкаджае. Шмат якія аналітыкі — не толькі ў Беларусі, але і за мяжой — казалі, што краіна ў 2011 годзе была на мяжы дэфолту з-за таго, што перад выбарамі 2010 года неабгрунтавана выраслі заробкі. І толькі дэвальвацыя нацыянальнай валюты выратавала краіну. Краіну, яна, канешне, выратавала, але людзям прыйшлося несаладка.

Тое ж самае і зараз. Першапачаткова ўрад і запланаваў рост эканомікі ў 2012 годзе пасля крызісу 2011-га ў межах 1,5% ВУП. Гэта была рэальная лічба. Але менавіта з падачы прэзідэнта яе скарэктавалі на 5,5%. І хто вінаваты ў тым, што перад посткрызіснай эканомікай была пастаўлена невырашальная задача?

Сённяшні «план» выхаду на 8,5% ВУП — гэта зноў жа задача невырашальная. Незалежныя эканамісты кажуць, што ў горшым выпадку ВУП «застыне» і будзе рэцэсія, а ў лепшым — рост ВУП можа дасягнуць толькі 3%. А адказным за «віртуальныя праекты» зноў апынецца ўрад.

Тое самае тычыцца і прагнозу інфляцыі ў 12% за год. Свежых звестак па гэтым паказчыку няма, але толькі за студзень яна склала чвэрць гадавой нормы — 3%. Прычым, даражэлі перш за ўсё тыя тавары, кошты на якія рэгулююцца дзяржавай.

І тая ж сітуацыя ў знешнім гандлі. Сальда знешняга гандлю таварамі ў студзені 2013 года склала мінус 150,3 мільёна долараў. Яшчэ каля 350 мільёнаў долараў было выплачана ў расійскі бюджэт у якасці кампенсацыі за пастаўкі бязмытнай нафты. І яшчэ мы працягваем выконваць свае абавязкі і аддаваць крэдыты. У такіх умовах разлічваць на «збалансаванасць знешняга гандлю» — гэта, пагадзіцеся, або вар'яцтва, або самазабойства.

Адстаўку ўрада яшчэ ў мінулым годзе прадракаў фінансавы аналітык Сяргей Чалы — менавіта з-за таго, што ўрад не выканаў прагнозныя паказчыкі. Лукашэнка на прэс-канферэнцыі беларускім журналістам нават адказаў на завочнае пытанне Чалага. «Што тычыцца адстаўкі ўрада, то вы з маіх вуснаў наогул ні разу гэтага не чулі. Можа, камусьці хочацца адставіць урад, але думаю, што Чалы не ў стане сёння замяніць не тое што прэм'ер-міністра, але і міністра», — заявіў тады прэзідэнт.

Не прайшло і двух месяцаў — і Лукашэнка паабяцаў «спіхнуць» урад у выпадку невыканання прагнозаў.

Сваю думку адносна ўраду, дарэчы, змяніў і сам Чалы. З ягоных словаў, урад і зараз, і пазней «адстаўляць» не трэба. «Цяпер абсалютна няма сэнсу, нельга, дый нават небяспечна адпраўляць у адстаўку гэтую каманду. Гэта тыя людзі, якія маюць вопыт выхаду з найцяжэйшага крызісу, якія разумеюць, як працуе эканоміка, якія вымушаныя былі ў некаторай ступені наступіць сабе на горла, каб з крызісу выйсці і змяніць свае погляды. Яны на сваёй шкуры даведаліся, што можна рабіць у эканоміцы, а што нельга. Гэта ўнікальны досвед», — кажа Чалы.

Па ягоным меркаванні, зараз правакуючы прэзідэнта на «разносы» і крытыку тыя, хто давёў краіну да дэвальвацыі ў 2011 годзе. Мінулы ўрад Сяргея Сідорскага сышоў напрыканцы 2011 года — 27 снежня 2010-га. «Расхлёбваць» усе негатыўныя наступствы пачаў новы ўрад. Петр Пракаповіч напярэдадні дэвальвацыі тэрмінова лёг у бальніцу, кінуўшы родны Нацбанк, а 18 ліпеня сышоў з Нацбанка зусім. Зараз, пачакаўшы годзік, можна зноў «падседжваць» урад, які зрабіў так шмат для краіны?

На думку Чалага, передумовы для адстаўкі ўрада ўзнікнуць у другой палове 2013 года, калі стане ясна, што прагноз для 2013-га па росту ВУП невыканальны. Тады ўрад, як у 2012-м, можа пачаць рабіць тыя ж памылкі: напампоўваць эканоміку грашыма і так далей. У выніку адстаўку ўрада Чалы прагназуе ў 2014 годзе па выніках 2013 года.

Але няма дрэннага без добрага. Урад, які так ці інакш чакае адстаўка, можа праводзіць сваю палітыку, не азіраючыся на прагнозныя паказчыкі, і рабіць сваю справу толькі на карысць краіны. То бок, не паўтараць мінулагодніх памылак. Тады яны хаця б папярэднікам добрую спадчыну пакінуць.

Што можа выратаваць гэты «ўнікальны», па словах Чалага, урад? Па-першае, сам Лукашэнка, які можа, як ужо неаднаразова было, «знізіць» свае патрабаванні і апетыты ў сярэдзіне года, і адмовіцца ад загадзя невыканальных паказчыкаў. Па-другое, гэта зноў-такі Лукашэнка, які пасля адмовы ад невыканальных паказчыкаў не будзе ўмешвацца ў дзейнасць ураду. Для прэзідэнта, заклапочанага «ростам заробку» людзей, вельмі істотна зразумець адно: людзі не хочуць такога «падвышанага» заробку, які праз месяц напалову з'есць дэвальвацыя. Яны хочуць, каб заробак, хай і заставаўся б на ранейшым узроўні, але б ніякая інфляцыя-дэвальвацыя яму не пагражала. Вось гэта ўрад зрабіць здолее.

Але «дваіх Балівар не вынесе»: тут альбо стабілізацыя эканомікі і цяжкі марудны рост, альбо выкананне прагнозу ў 8,5% ВУП, а затым новы завал. Для самога ўрада і для Лукашэнкі важна зразумець, што важней.

ПРАБЛЕМА

# ТУРЫЗМ БЕЗ ТУРЫСТАЎ

Сяргей ПУЛЬША

**Беларусь, нягледзячы на ўсе свае перспектывы і высілкі, так і не стала «турыстычным раем». Як паведамляе Белстат, летась Беларусь арганізавана наведалі 118 тысяч турыстаў. Гэта на 2,3% больш, чым у 2011 годзе. Па-ранейшаму значная з іх частка — расіяне, якіх пабыло тут 94 200 чалавек. Чаму ж Беларусь не карыстаецца попытам у замежных турыстаў? Адмыслоўцы кажуць пра некалькі хібаў, якія перашкаджаюць замежнікам наведаць Беларусь.**




Першае, што адрознівае заходняга турыста ад расіяніна — гэта, канешне, віза. Беларускія візы каштуюць дастаткова шмат. Стандартны кошт аднаразовай турыстычнай або дзелавой візы — 40–60 долараў. Беларуская віза звычайна выдаецца на працягу 5 рабочых дзён, ёсць таксама магчымасць тэрміновага атрымання візы ў Беларусь (на працягу 48 гадзін) пры аплаце ў падвойным памеры. Але гэтыя візы выдаюцца там, дзе ёсць пасольства альбо консульства Беларусі.

Раней візу можна было атрымаць у Нацыянальным аэрапорце «Мінск». Зараз гэтая паслуга не для ўсіх. З 1 верасня 2012 года ў Нацыянальным аэрапорце «Мінск» спынілася выдача ўязных віз замежным грамадзянам з тых краін, дзе ёсць дыпламатычныя прадстаўніцтвы і консульскія ўстановы Беларусі. Так што — усе ў консульствы.

Па-другое, аказваецца, у Беларусі няма на што паглядзець замежнікам! Збольшага, яны могуць паглядзець Мінск і… І ўсё. Для турыстаў нічога не зроблена — апошнім часам адрэстаўраваны толькі два замкі: Мір і Нясвіж. Яшчэ попытам карыстаецца Белавежская пушча. Але гэта тое, што «вырасла само», і да таго ж значна камфортней на яе паглядзець з боку Польшчы.

Беларускі агратурызм, пра які так доўга казалі, так і не здолеў набраць абароты. На ўсю краіну на дадзены момант існуе 71 аграсядзіба, дзе можна адпачыць. Прынамсі, такую лічбу падае першы каталог беларускіх аграсядзіб usadby.by. Пра што тут можна казаць?

Тое, што Беларусь непрываблівая для замежнікаў, з імпэтам скарыстоўваюць расіяне. Гэта, найперш, санаторыі і лячэнне ў Беларусі. Тое, канешне, спадчына СССР, але гэта захаваная спадчына. Рускаму лепш адпачыць у Беларусі «без асаблівых прэтэнзій», і гэта абыдзецца ўдвая танней, чым на Радзіме. А хто з прэтэнзіямі — хай ляціць у Карлавы Вары.

Як ні дзіўна, апошнім часам у Беларусь рускія едуць «за настальгіяй». На фоне расійскай «праімперскай прапаганды», што ўзмацняецца, выгаду атрымлівае Беларусь — сюды арганізавана едуць паглядзець на музеі Вялікай Айчыннай вайны ды пракаціцца па «Лініі Сталіна». Балазе, любы горад у нас — ад самага маленькага да Мінска — жывы помнік ВАВ.

Але Беларусі ўсё ж трэба выбіраць, якіх турыстаў яна чакае. Турыстычнай палітыкі ў нас папросту не існуе. Зашмат турыстычных грошай мы губляем на «ідэалагічнасці». І Літва, і Польшча ў год 150-годдзя паўстання Каліноўскага зрабілі шмат для таго, каб атрымаць хаця б «унутраных турыстаў», каб паказаць гісторыю сваім грамадзянам. Мы не толькі не зрабілі нічога, але і, наадварот, амаль на дзяржаўным узроўні робім падарунак палякам, кажучы пра польскую прыналежнасць Каліноўскага.

Тое ж самае з «раскруткай» мастацкіх рэчаў. «Славянскі базар у Віцебску» і «Лістапад» ператварыліся ў «міжсабойчык». Амаль няма нацыянальнай кухні: рэстарацыі Мінска з чым-небудзь нацыянальным, больш складаным за дранікі, можна пералічыць па пальцах адной рукі.

У гэтай сферы трэба вельмі шчыра працаваць. Бо «на халяву» турыстаў, як краіны, дзе ёсць цёплае мора, Беларусь не атрымае. Але нешта нам перашкаджае ў развіцці гэтай галіны. І, пэўна, не толькі візы.

А ў Літве, у якой жыве менш за 3 мільёны чалавек, за год спыніліся 2 мільёны турыстаў (1,1 мільёна — замежнікі). Прырост турыстаў за год склаў 12,4% — гэта другі паказчык у ЕС пасля Ісландыі.

▸ З НАГОДЫ

# Уладзімір Някляеў: «ЯК ПАЛЁТ ЛАСТАЎКІ НАД ВАДОЙ»




**«Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» Уладзіміра Някляева адразу прыцягнуў да сябе ўвагу. 1 сакавіка раман быў уганараваны прэміяй Ежы Гедройца. Пра твор, палітыку, літаратуру і жыццё з Уладзімірам Някляевым размаўляе Сяргей Шапран.**

***— Напісаўшы значную частку твора яшчэ ў 2008–2009 гадах, вы пэўны час не ведалі, як яго завяршыць.***

— Звычайна дапісваецца тое, што прадумана да эпізодаў у самым фінале. Не абавязкова падзеі і персанажы будуць такімі, якімі ты бачыў іх напачатку, але гэта ўжо іншая справа: твор і персанажы ягоныя пачынаюць карэктаваць аўтара, як бы ствараць самі сябе. Да прыкладу, галоўны герой менскага рамана ўжо ў задуме твора праходзіў праз турму. Мне трэба было правесці яго праз гэтае выпрабаванне, але як? За што, папросту кажучы, яго «пасадзіць»?..

***— А тут само жыццё падказала.***

— Так. Галоўнага героя менскага рамана яшчэ напачатку 1960-х гадоў павінны былі пасадзіць па сутнасці за тое, што ён не такі, як іншыя. Стыляга. Сёння гэта як апазіцыянер. У 2010-м садзяць мяне самога — і яно стае прычынай зняволення майго галоўнага героя. Прычына ў корані тая самая, але яна ўзбуйнілася — і ўзбуйніла маштаб падзей, характараў.

***— Аднак напісанне рамана перапынялася не толькі з-за турмы?***

— Вельмі шмат яго ў апошнія гады забірае ў мяне палітыка. Забірае, адрываючы ад пісьмовага стала — і тут што здараецца? Здараецца не толькі пярэрва ў часе, а пярэрва ў рытме, у знойдзенай, надыханай інтанацыі, да якой пасля пярэрвы вельмі цяжка вярнуцца. Героі нібы самастойна жывуць сваім жыццём. Я не змушаю іх рабіць абавязкова тое, што ў самым пачатку за іх прыдумаў, часцяком яны дзейнічаюць насуперак волі аўтара. Вось я меркаваў ускладніць унутраную драму галоўнага героя менскага рамана фізічнай блізкасцю з галоўнай гераіняй, хлапчука з маладой жанчынай, а ён успрацівіўся: "Гэтага хочаш ты, а не я..." І не ўдалося мне з ім дамовіцца, давялося напісанае выкінуць.

***— «Аўтамат з газіроўкай...» стаўся раманам тады, калі ў творы з'явіўся другі план — менавіта падзеі снежня 2010-га — чэрвеня 2011 года зрабіліся своеасаблівым дахам над домам, які вы ніяк не маглі дабудаваць...***

— Я ў любым выпадку не кінуў бы гэтую прозу. Яна ад пачатку задалася, адразу лёгка-лёгка пайшла. Мастацкая проза — гэта прыгожае пісьменства. Яна павінна выглядаць лёгка, ажурна, каб усё ляцела і пырскала фарбамі, каб чытач не знясільваўся, спрабуючы пранікнуць у сэнс таго, што ты напісаў. Гэта павінен быць палёт ластаўкі над вадой. Вось гэтага мне і хацелася дасягнуць у менскім рамане, які пачынаўся не так, як пачынаецца, праездам першага тралейбуса па праспекце, а размовай, якую галоўны герой...

***— Гэта значыцца вы.***

— Ну, няхай сабе так. Флабэр казаў: «Мадам Бавары — гэта я», — а ў менскім рамане насамрэч шмат аўтабіяграфічнага, і пачынаўся ён размовай галоўнага героя і аўтамата з газіроўкай (які таксама адзін з герояў рамана) пра тое, што ў кожным часе свой пах, свае мелодыі, фарбы — і сонца ў кожным часе сваё. Сонца 1960-х гадоў — гэта не сонца 2010-х. Не скажу, што горшае за тое, якое было, але тое — асаблівае. Як асаблівыя тыя гукі, пахі, колеры, той пчаліны гуд у ліпах, звоны тых трамваяў, галасы тых людзей... І калі я нырнуў у аўру тых гадоў, мне захацелася даплысць ад берага да берага.

***— А ці выпадкова ў рамане з'явіўся толькі адзін пісьменнік, і менавіта Караткевіч?***

— Не выпадкова. Уладзімір Караткевіч найпершы ў беларускай літаратуры стваральнік мітаў. Тым ён мне і дарагі. Я спавядаю многія з тых падыходаў да жыцця, да людзей, да літаратуры, якія спавядаў ён. Скажам, я ніколі не чуў, каб ён некага без дай прычыны прынізіў. Каб пра нешта вартае адазваўся паблажліва. І ў ягоных творах відаць, як ён кожнага прыстойнага чалавека падымае на максімальна магчымую для таго чалавека вышыню. Ён любуецца такімі людзьмі, калі выпісвае іх. Па сутнасці, ён паспрыяў узнікненню цікавасці да гісторыі і ўзнікненню беларускіх гісторыкаў, якія, адчуўшы, што выклікаюць цікавасць у чытача, сталі пісаць так, каб гэта было цікава.

З'яўленне Караткевіча ў менскім рамане адпавядае чаканням галоўнага героя, пятнаццацігадовага хлопчыка з ягонымі ўяўленнем пра тое, якой павінна быць літаратура ў краіне, дзе ён жыве, якімі павінны быць літаратары і як яны павінны пісаць, каб гэты хлопчык зразумеў, у якой прасторы, у якім часе ён жыве, што тут ёсць каштоўнасць, а што — брыда.

***— Вельмі добра выпісаны ў рамане эпізод у Саюзе пісьменнікаў — з літкансультантамі, Кімам Сысоем і Уладзімірам Караткевічам, хоць зразумела, што эпізод — цалкам прыдуманы...***

— Ты так мяркуеш?.. А паэт Анатоль Вярцінскі, які прыблізна ў той час якраз і быў літкансультантам Саюза пісьменнікаў, прачытаў гэты эпізод як спісаны з натуры. Ну, амаль... Спытаў: «Мяне ж там няма, праўда?» (*смяецца*). Ён самы першы пачатаў прачытаўшы раман у «Дзеяслове». І як пачаў? «Ведаеш, што я табе скажу? Збылася мара Алеся Адамовіча пра звышлітаратуру!..» Падазраю, што Вярцінскі такі камплімент пракінуў, бо ўсё ж ён ёсць у рамане. Верш свой чытае, які я вельмі люблю:

*Спартак, Спартак! Героі ўсіх эпох!*
*Ці не такі быў лёс ваш у фінале:*
*Як нехта моцна спаў, вас распіналі,*
*Вы ціха на крыжы сваім канали,*
*І білася жанчына каля ног!*

Дарэчы, у менскім рамане і Рыгор Барадулін чытае свае вершы...

***— Я яго і не прызнаў. Гэта той студэнт-філфакавец, які ад гэбіста ў тэатр збег?***

— Так, які збег у тэатр. А не прызнаў ты Барадуліна, бо ён чытае верш, якога ты не ведаеш. Я папрасіў яго напісаць што-небудзь наўмысна для рамана. Спытаў: «Ты ж не пісаў антысавецкія вершы ў 1960-я гады?» — «Не, — кажа, — не пісаў». — «Дык напішы цяпер». Не прайшло і паўдня, як Барадулін (*смяецца*) тэлефануе і чытае:

*Рахманыя, наўпартыя,*
*Мы ўсе — адзін калгас.*
*Кіруе намі партыя*
*І думае за нас...*

З гэтым вершам я і паставіў Рыгора Барадуліна на прыступкі Тэатра юнага гледача ў 1962 годзе. Хоць, калі быць дакладным, дык вершы звычайна чыталіся там, дзе цяпер кінатэатр «Піянер» — з боку лялечнага тэатра. Але адна рэч, калі вершы чытаюцца ў нейкім закутку, і зусім іншая — пад антычнымі калонамі. Зусім іншая прастора — і ёсць куды схаваць таго філфакаўца, які збег. Я ж не дакументальны раман пісаў.

***— Як увогуле ўзнікла задума рамана?***

— Я падумаў пра гэта ўпершыню яшчэ ў самым пачатку 2000-х гадоў, а канкрэтна — у 2001-м, калі прыехаў з Хельсінкі на пахаванне Кіма Хадзеева. Чакаў убачыць працэсію народу, але там сабралася паўтара дзясяткі чалавек. Тады і ўбачыў, як хутка змяніўся час, і як той, хто яшчэ ўчора быў валадаром думак, сёння адыходзіць — і ніхто пра іх ужо не памятае.

Падумаў: не, так з Кімам, з намі, з нашым часам не павінна быць. Але напісаць пра гэта ўсё рукі не даходзілі — іншае пісалася. Зноў прыехаў з Хельсінкі, ужо на пахаванне Быкава. Сустрэўся з Віктарам Ледзеневым, прапанаваў яму напісаць пра «антысавецкую групоўку Хадзеева». Віктар згадзіўся, нават пачаў нешта пісаць — не пайшло. І ні ў каго не пайшло — вось і давялося ўрэшце ўзяцца за гэта мне. А ўсе ж «хадзееўцы» — псічныя людзі...

Яны ўсе разам, не толькі Кім Хадзееў, моцна на мяне паўплывалі. І я пісаў раман так, як бы мы пісалі яго ўсе разам.

***— Прыгадваецца развітанне з Андрэем Вазнясенскім, якое вы ў «Знаках прыпынку» згадвалі. Вы чакалі ўбачыць натоўп на вуліцы, але ўсе, хто прыйшоў развітацца, умясціліся ў Дом літаратара...***

— Калі бачыў, як на стадыёне ў захапленні слухалі вершы дзесяць тысяч чалавек, дык чакаеш, што развітацца прыйдзе хоць бы дзясятая частка тых людзей — не памерлі ж яны. Ва ўсякім разе, не ўсе. Але, але, але... Яўген Яўтушэнка, з якім каля труны Вазнясенскага на сцэне Дома літаратара мы сталі побач, сказаў мне ціха: «Когда нам придет пора, Володя, зал, наверное, вообще будет пустой». А ён жа таксама чытаў вершы на стадыёнах... Ну, а мне сёння нават у бібліятэцы выступіць не даюць — якія там стадыёны...

Між іншым, не далі мне выступіць з развітальным словам і на пахаванні Вазнясенскага. Сказалі: «От Белоруссии мы уже получили соболезнование президента Александра Григорьевича Лукашенко, так что вы, Владимир, нас поймите...»

***— Кім Хадзееў (у рамане вы далі яму мянушку Палкоўнік) выпісаны даволі непрывабным чалавекам. Але калі ўзяць рэальнае жыццё, дык ці сапраўды ён застаўся ў вашай памяці такім?***

— Па-першае, не я даў Хадзееву мянушку Палкоўнік — яна ў яго насамрэч была. Па-другое, не выглядае ён, па-мойму, такім ужо непрывабным... Ва ўсякім выпадку, выпісваць яго такім я не меў на мэце. Ён неахайны быў. У яго жытло было, як у бадзяжніка, а я рос у сям'і хоць і беднай, але ў такой, у якой, калі ў доме на фіранку муха села, дык маці адразу фіранку мыла і прасавала... Але ўсё знешняе засланялася тым, што было ўнутры ў гэтым чалавеку. Калі ён пачынаў прамаўляць, нешта даводзіць, ты слухаў рот разявіўшы і нічога наўкол не заўважаў. Кожны з нас успрымае аднаго і таго ж чалавека па-рознаму — і, магчыма, Хадзееў быў не зусім такі, якім мне запомніўся.

***— А ці ёсць рэальныя прататыпы ў гэбістаў?***

— Вось каго заўсёды хапала ў маім рэальным жыцці, дык гэта рэальных гэбістаў. І гэтакіх, якія яны ў рамане, і да іх падобных.

У 60-я гады мінулага стагоддзя я не меў з імі такіх шчыльных дачыненняў, як пазней, але з імі добра знаёмыя былі мае старэйшыя сябры. А я ўжо праз іх. І як Саламон Майсеевіч — зборны вобраз габрэяў, якія жылі на Нямізе, гэтак гэбіст Гурык — зборны вобраз выпускнікоў менскай вышэйшай гэбісцкай школы.

***— Вельмі ўдала выпісана гратэскная сцэна ў Навінках, калі хворыя і здаровыя інсцэніруюць пасяджэнне Прэзідыума ЦК КПСС. Гэта пародыя ў тым ліку і на ўладу сённяшнюю?***

— Я б не сказаў, што гэта пародыя. Калі, канешне, не пародыя — сама ўлада. Як былая, гэтак і сённяшняя. Пры ўсіх уладах мы жылі як у вар'ятні. І калі б я перанёс дзею з вар'ятні ў залу пасяджэнняў ЦК, дык было б тое самае.

Сам я ў вар'ятні не быў, але мой сябар Ледзенеў, не вытрываўшы ціску гэбістаў (у яго дайшло да нервовых расстройстваў), сапраўды патрапіў у псіхушку. І ў рамане я скарыстаўся больш ягоным досведам, чым сваім.

***— А наколькі дакументальныя сцэны вашых допытаў тады, у 1960-я гады, і пазней — у 2010-х гадах?***

— Тут рэальнасць і літаратура дастаткова блізкія.

***— Вы, відаць, невыпадкова дадалі да рамана фрагменты з даклада Хрушчова на XX з'ездзе КПСС, стэнаграму сустрэчы Хрушчова з творчай інтэлігенцыяй, урыўкі з даклада прэзідыума ЦК КПСС ужо пра культ асобы Хрушчова. Такім чынам вы, мяркую, наўмысна правялі недвухсэнсоўную паралель з сённяшнім днём...***

— Абсалютна правільна ты ўсё зразумеў. І я хацеў бы, каб тыя, хто пытае: «А навошта ты дадаў да рамана дакументы і паслямову Віктара Ледзенева?» — зразумелі, што нічога я не «дадаваў», што і мой тэкст, і дакументы, і паслямова Ледзенева — тры часткі рамана, які менавіта такім мне бачыўся. Не зусім такой бачылася хіба паслямова. Я даў Ледзеневу прачытаць мой тэкст і прапанаваў яму, аднаму з герояў рамана, скончыць раман так, як бы ён скончыў яго, калі б быў не толькі героем, але і аўтарам. Вось такі апрабаваць прыём, якім ніхто яшчэ не карыстаўся. Віктар не адразу згадзіўся, сказаў, што задача складаная (яна і насамрэч няпростая), але ўрэшце напісаў тое, што напісаў. Раздзел з назвай «Вуліца Уладзіміра Някляева». Раздзел аказаўся не зусім такім, якім ён мне ўяўляўся, — і тым не менш прыём быў скарыстаны, канцэпцыя рамана вытрымана.

**НЧ друкуе скарочаны варыянт працяглай размовы літаратара і журналіста. Цалкам інтэрв'ю будзе апублікавана ў бліжэйшых нумарах часопіса «Абажур»**

## 17 САКАВІКА, НАДЗЕЛЯ

**1 БЕЛАРУСЬ**

**07.25** Камедыя «Любімая жанчына механіка Гаўрылава» (СССР).
**08.50** Слова Мітрапаліта Філарэта.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Нашы.
**09.50** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).
**10.55** Медычныя таямніцы.
**11.25** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.10** Меладрама «Самотным даецца інтэрнат» (СССР).
**13.50** Тэлестужка АТН.
**14.20** Клуб рэдактараў.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Заўтра - гэта мы!
**16.05** Культурныя людзі +.
**16.40** «Месца сустрэчы». Музычна-забаўляльная праграма.
**17.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**18.45** Камедыя «Звычка жаніцца» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналіцкае расследаванне.
**22.30** Трылер «Самалёт прэзідэнта» (ЗША-Германія).
**00.35** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).

**ОНТ**

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** Мультфільм.
**09.30** «Шалапутныя нататкі».
**09.50** Пакуль усе дома.
**10.45** Фазэнда.
**11.20** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.20** Прэм'ера. «Вяселле ў Малінаўцы». Непрыдуманыя гісторыі».
**13.20** Камедыя «Вяселле ў Малінаўцы».
**15.00** «Чабаркульскі метэарыт. Месяц пасля».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. Асяроддзе пасялення».
**17.20** Прэм'ера. «Форт Баярд».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Дыханне планеты».
**21.40** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.45** Трылер «Чырвоны цмок».

**СТВ**

**06.10** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**07.50** Фільм «Ван Хельсінг». ЗША - Чэхія, 2004 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Вялікі сняданак».
**11.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Каханне з прывілеямі». Расія, 1990 г.
**15.05** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Уявіце сабе».
**17.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Проста разам». Францыя.
**22.30** Прэм'ера. «Пякельная кухня - 2».
**23.50** Прафесійны бокс.
**01.00** Фільм «Кола фартуны». ЗША, 1998 г.
**02.50** «Дурні, дарогі, грошы».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**08.05** Таямніца душы.
**08.30** Пазакласная гадзіна.
**08.50** Тэлебарометр.
**08.55** Альбарутэнія.
**09.30** Пра мастацтва.
**10.00** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія). Заключныя серыі.
**11.10** Вышэй за дах.
**11.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**12.20** Біятлон. Кубак свету. Гонка з масавым стартам. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**13.20** Крымінальная камедыя «Мільён гадоў да нашай эры» (Францыя).
**15.20** Біятлон. Кубак свету. Гонка з масавым стартам. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**16.20** Дэтэктыў «Крымінальны талент» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Спорт-кадр.
**22.00** Тэніс. Фінал. Прамая трансляцыя.
**00.00** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія). Заключныя серыі.

**РОССИЯ**

**07.00** «Сонечнае зацьменне».
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весці.
**11.15** «Смехапанарама Яўгенія Петрасяна».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** «Дама з сабачкам».
**14.00** Весці.
**14.15** «Чорныя дзіры. Белыя плямы».
**15.05** «Гарадок». Дайджэст.
**16.05** «Сваты».
**18.05** «Крывое люстэрка». Тэатр Яўгенія Петрасяна.
**20.00** Весці тыдні.
**21.25** «Фактар А».
**23.20** «Нядзельны вечар з Уладзімірам Салаўёвым».

**НТВ**

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ядзім дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паядзім!».
**12.25** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Спадарыня Масленіца». Святочны канцэрт.
**14.25** Мікалай Козак у фільме «Казак».
**16.05** Выратавальнікі.
**16.35** «Следства вялі.».
**17.30** «Вочная стаўка».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма» з Кірылам Пазднякоўым.
**19.55** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.35** «Цэнтральнае тэлебачанне» з Вадзімам Такменёвым.
**21.35** «Жалезныя лэдзі».
**22.20** Баявік «Марскія д'яблы. Віхраслуп. Лёсы».
**23.55** «Школа зласлоўя».

**МИР**

**05.00** Мастацкі фільм «Дзяўчына са швейнай машынкай».
**06.30** Мультфільмы.
**07.45** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.00** Мультсерыял «Смешарыкі».
**08.15** «Ведаем рускі».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Даведнік».
**09.40** «Ежа з Зіміным».
**10.10** «Нязорнае дзяцінства».
**10.40** «Ганг, твае воды замуціліся».
**13.55** «Практычная магія».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** Серыял «Я шпік».
**20.00** «Разам».
**21.00** Серыял «Я шпік».
**21.40** Мастацкі фільм «Неідэальнае забойства».
**23.05** «Ганг, твае воды замуціліся».
**02.20** «Вяртанне браняносца».
**04.20** «Даведнік».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**07.15** Казкі для дзетак.
**07.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 11 серыя.
**08.05** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.25** Зона «Свабоды».
**08.55** Еўропа сёння.
**09.25** Навігатар.
**09.40** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**09.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.20** Без рэтушы: «Скрушны лёс», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**10.35** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**11.00** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.20** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.40** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Прыгоды і паходы».
**12.10** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 11 серыя.
**12.35** «Час гонару», серыял: 14 серыя.
**13.25** «Ночы і дні», серыял: 3 серыя.
**14.20** «Таемны свет ўэлнэсу: старажытны Рым», дак. фільм, 2007 г., Германія–Аўстрыя.
**15.10** Назад у будучыню.
**15.25** «Дзяўчаты з Наваліпак», маст. фільм, 1985 г., Польшча.
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.00** Невядомая Беларусь: «Страх у краіне спакою», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.05** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Польска-бальшавіцкая вайна 1920 г.».
**19.55** Дакументальная гадзіна: «Марцэла», дак. фільм, 2006 г., Чэхія.
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.55** Форум (ток-шоу).
**22.45** Фільматэка майстроў: «Хаатычная Ана», драма, 2007 г., Іспанія.
**00.45** Відзьмо-невідзьмо: вып. 22.
**01.10** Два на два (тэледыскусія).
**01.40** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты. **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка. 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі. 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

Гомель. (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Магілёў. (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск. (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск. (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк. (8029) 364 42 60 Зінаіда.

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**



БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)
ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐
(сумма цифрами) (сумма прописью)
ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926
КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)
ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)
АДРЕС
Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное
(назначение платежа)
(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 _____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ________
Кассир Всего ________

ПРАБЛЕМА

# ЦІ ТРЭБА БАЯЦЦА ЧАЛАВЕКА СА СТРЭЛЬБАЙ?

Алег НОВІКАЎ

**Пасля смерці Бен Ладэна ворагам нумар адзін у ЗША сталі сябры Нацыянальнай стралковай асацыяцыі (NRA).**




Зоркі Галівуда здымаюць супраць іх ролікі, жанчыны ствараюць на Facebook акаўнты накшталт «Маці супраць NRA», а афраамерыканцы ўзгадваюць, як калісьці на зборах NRA іх называлі «нігеры». Як заўсёды, падчас кампаній не абышлося без відавочных небыліц. Напрыклад, некаторыя ненавіснікі NRA усур'ёз сцвярджаюць, што Асацыяцыя, якая з'явілася на свет у 1871 годзе, — фрагмент каварнага плана расістаў з сумнавядомага Ку-Клукс-Клану (ККК). Быццам, былыя рабаўладальнікі пасля пройгрышу ў грамадзянскай вайне шукалі прыкрыццё для легальнай дзейнасці і вырашылі, што лепшая вітрына — аб'яднанне ўладальнікаў зброі.

На самай справе, прынамсі да нядаўніх часоў, NRA не мела ніякай сувязі з ККК. Больш таго, яна нарадзілася хутчэй для барацьбы з імі. У 1871 годзе спробы рэваншу з боку Поўдня разглядаліся на Поўначы як цалкам рэальныя. Вайсковыя эксперты пры распрацоўцы сцэнараў канфлікту звярнулі ўвагу на жудасную статыстыку. Аказваецца, у час папярэдняй вайны сярэднестатыстычнаму салдату-федэралу патрэбна было 1 000 разоў стрэліць у ворага, каб нарэшце адзін раз у яго трапіць. Так узнікла ідэя арганізацыі, якая будзе займацца папулярызацыяй нашэння зброі і стралковага спорту. Менавіта так нарадзілася NRA. Дзейнасць гэтай асацыяцыі заснавана на прынцыпе пра тое, што права на валоданне зброяй з'яўляецца неад'емным, як іншыя грамадзянскія свабоды амерыканцаў, і абаронена Другой папраўкай да Білю аб правах.

Хаця Нацыянальная стралковая асацыяцыя з'яўляецца адной з самых старых грамадзянскіх ініцыятыў у Злучаных Штатах, доўгі час яна была амаль што афіцыйнай, паколькі дэ-факта брала на сябе функцыі Мінабароны па падрыхтоўцы навабранцаў і захаванню кваліфікацыі вайсковага рэзерву. Нядзіўна, што прадстаўнікоў NRA з пачатку XX стагоддзя можна было сустрэць у шматлікіх парламенцкіх камісіях. Не цураліся яе нават лідары краіны. За гісторыю NRA яе сябрамі былі восем прэзідэнтаў ЗША, сярод якіх такія гістарычныя постаці, як Тэадор Рузвельт, Айк Эйзенхаўэр, Рональд Рэйган, Рычард Ніксан і іншыя. Арганізацыя настолькі ўпісалася ў дзяржпалітыку, што нават лёгка ўхваліла першыя ініцыяваныя прэзідэнтамі законапраекты, накіраваныя на абмежаванне выкарыстання агнястрэльнай зброі прыватнымі асобамі — Акт аб агнястрэльнай зброі (1932) і Акт аб кантролі за зброяй (1968).

Вялікі пераломам у дзейнасці Нацыянальнай стралковай асацыяцыі пачаўся ў 1970-я гады, калі Амерыку ахапілі культурныя войны. У адказ на з'яўленне хіпі і рок-н-рола, легалізацыю гомасэксуалізму, уздым феміністкага руху мабілізаваўся кансерватыўны клас са сваімі культурнымі забабонамі. Дрэс-код, мадэль спажывання, хобі пачалі набываць палітычны падтэкст. Адпаведна, пачалася імклівая палітызацыя трэцяга сектара. Адной з самых палітычна заклапочаных няўрадавых арганізацый стала менавіта NRA. У 1980 годзе ўпершыню ў сваёй гісторыі яна афіцыйна падтрымлівае аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты. Чытач, напэўна, здагадаўся, што гэтым палітыкам быў Рональд Рэйган.

Інтарэс да палітыкі можна таксама патлумачыць бізнэс-інтарэсамі. Карпарацыі па вытворчасці зброі баяліся абмежавання аб'ёмаў продажу прадукцыі і былі зацікаўлены ў палітычным лобі. NRA стала цудоўным праваднікам іх праектаў. Сёння гэта арганізацыя лічыцца адной з самых уплывовых у сферы палітычнага лобінгу. Акрамя лобінгу, NRA вядзе шырокую адукацыйную працу — выдае некалькі часопісаў, арганізуе лекторыі па бяспецы выкарыстання зброі, праводзіць шматлікія спартовыя спаборніцтвы, прадастаўляе прававую дапамогу аматарам зброі, якія маюць праблемы з законам. Вялікая ўвага таксама надаецца інфармаванню насельніцтва аб ужо згаданай Другой папраўцы.

NRA з'яўляецца адным з галоўных спонсараў скаўцкага руху ў ЗША. Ну і, безумоўна, падтрымлівае рэспубліканцаў. Так, у 2008 годзе NRA уклала каля 12 мільёнаў долараў у ініцыятыву супраць абрання Барка Абамы прэзідэнтам. Застаецца дадаць, што Нацыянальная стралковая асацыяцыя налічвае на сённяшні дзень больш за 4,5 мільёна сябраў.

З пачаткам 1990-х гадоў у ЗША рэзка павялічылася колькасць масавых забойстваў навучэнцаў, якія былі зробленыя кімсьці з вучняў альбо староннняй асобай (увогуле, першае злачынства такога кшталту здарылася ў 1764 годзе, калі нейкія індзейцы забілі ўвесь клас). І хаця толькі некаторыя з забойцаў былі сябрамі NRA, хутка асацыяцыя аказалася па самыя вушы ўцягнутая ў гэтую праблематыку. Такая сітуацыя выглядае трошкі дзіўнай: па той бок акіяну хапае кансерватыўных няўрадавых арганізацый, у тым ліку аб'яднанняў аматараў зброі, якія пры гэтым дастаткова мірна суіснуюць з уладамі, нават з самімі ліберальнымі. Аднак толькі не ў выпадку NRA. Такое ўражанне, што канцэнтрацыя сярод сябраў NRA экстрэмісцкіх элементаў — наступства агрэсіўнага іміджу асацыяцыі, цягне за сабой неадэкватную, шакуючую публіку рэакцыю.

Дастаткова паглядзець, як NRA рэагавала на трагедыю ў Ньюпарце, дзе ў снежні 20-гадовы Адам Ленза забіў 27 чалавек, а потым застрэліўся сам. Кіраўнік Нацыянальнай стралковай асацыяцыі выступіў з гэтай нагоды са спецыяльнай заявай, у якой прапанаваў сваю версію трагедыі. Па яго словах, ва ўсім вінаватыя Галівуд, які прапагандуе гвалт, і палітыкі-дэмакраты, якія дабіліся пераўтварэнне школьных тэрыторый у т.зв. Gun-Free School Zones (школьная зона вольныя ад зброі). Нібыта таблічкі з такім надпісам дзейнічаюць на патэнцыйных забойцаў як каталізатар. Цяпер, быццам, ім зразумела, дзе можна пазабіваць як мага шмат людзей без асаблівай рызыкі.

Развязанне праблемы NRA бачыць у рэалізацыі плану, які называецца «Нацыянальны школьны шчыт» і прадугледжвае стварэнне інстытуту паліцэйскіх афіцэраў, якія будуць адказныя за бяспеку школ. Агітуючы за свой план, асацыяцыя нават узгадала дзяцей Барака Абамы, якія, натуральна, ахоўваюцца як сям'я прэзідэнта. У адным з прапагандысцкіх кліпаў Нацыянальная стралковая асацыяцыя звяртае ўвагу на тое, што Абама абараняе сваіх дачок па прынцыпу «Нацыянальны школьны шчыт», аднак не жадае такой перспектывы для іншых дзяцей краіны. Таксама ўразіў грамадскасць нядаўні памфлет асацыяцыі пра тое, што Хілары Клінтан — камуністка.

Агрэсіўная рыторыка Нацыянальнай стралковай асацыяцыі не падабаецца нават арганізацыям, якія абараняюць правы ўладальнікаў зброяй. Шэраг лідараў ініцыятыў такога кшталту абвінавацілі NRA у тым, што яе дзейнасць на руку праціўнікам Другой папраўкі. Думаецца, што на самай справе такая дзейнасць на руку дэмакратам, з якіх цяпер менш спытаюць за эканамічныя праблемы. З улікам законапраекта аб кантролі над уладальнікамі зброі, які рыхтуецца, эмоцыі сціхнуць не хутка.

Аднак больш цікавыя працэсы адбываюцца на правым флангу, дзе ідзе раскол па лініі «за» і «супраць» Нацыянальнай стралковай асацыяцыі. Так, мэр Нью-Ёрка Майкл Блумберг рэзка крытыкуе пазіцыю NRA. З іншага боку, асацыяцыя імкліва становіцца гаванню для кансерватыўных рэспубліканцаў з групоўкі «Tea Party» (кансерватыўная фракцыя рэспубліканцаў), праціўнікаў аднаполых шлюбаў, ісламафобаў. Так, «Tea Party», калі верыць прэсе, негалосна падтрымлівае правядзенне 20 сакавіка т. зв. Маршу ў абарону Другой папраўкі, які фактычна павінен стаць аглядам сіл радыкалаў і паскорыць працэсы падзелу рэспубліканцаў на дзве партыі — больш ліберальную і больш кансерватыўную.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Абноўленая рэдакцыя Канцэпцыі знешняй палітыкі Расійскай Федэрацыі выразна дэкларуе мэту рэінтэграцыі краін СНД пад эгідай Масквы. Пуцін доўгі час спадзяваўся дамінаваць на постсавецкай прасторы, адначасова пераводзячы адносіны з патэнцыяльнымі сатэлітамі на рынкавыя рэйкі. У выніку Расія ледзь не пазбавілася апошняга саюзніка ў асобе Беларусі. Новая рэдакцыя канцэпцыі прызнае непазбежную неабходнасць ісці на эканамічныя саступкі ў абмен на палітычнае лідарства. Прытрымліваючыся гэтай логікі, у Маскве заплюшчваюць вочы на субсідаванне беларускай эканомікі.

**«Комментарии» (Украіна)**

З вялікага грому — дробны дождж. Такой прыказкай ацанілі вынікі нарады назіральнікі ў Мінску, нагадваючы, што ў канцы мінулага тыдня Лукашэнка, расчараваны вынікамі беларускага хакея, не ўтрымаўся ад рэзкіх выказванняў. «Месці вуліцы» тры месяцы таму Лукашэнка адправіў ранейшых высокіх кіраўнікоў спартыўнай галіны, уключаючы міністра спорту і памочніка прэзідэнта па пытаннях развіцця спорту і турызму. Прычына — горшы ў гісторыі суверэннай Беларусі вынік па колькасці заваяваных узнагарод на летняй Алімпіядзе ў Лондане. Ад перастаноўкі чыноўнікаў нічога не змянілася, дый не зменіцца. Адміністраванне, строгае патрабаванне высокага выніку абарочваецца псіхалагічным выгараннем спартсменаў.

**BBC (Вялікабрытанія)**

Планы беларускага ўрада па павелічэнні замежных інвестыцый у эканоміку краіны могуць застацца на паперы. Аналітыкі свой скепсіс адносна заяўленай мэты тлумачаць паводзінамі беларускіх уладаў, якія могуць адпрэчыць патэнцыйных замежных інвестараў. Справа ў тым, што ў лютым урад заявіў пра намер да канца сакавіка 2013 года вярнуць дзяржаве кантрольныя пакеты акцый холдынгу «Луч» (Мінск) і прадпрыемства «Красный пищевик» (Бабруйск). А ў кастрычніку 2012 года па ўказанні прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі былі ліквідаваныя назіральныя саветы на двух кандытарскіх фабрыках — «Камунарка» (Мінск) і «Спартак» (Гомель). Словы Лукашэнкі і дзеянні ўладаў выклікалі шок у бізнэсмэнаў і экспертаў, якія назвалі тое, што здарылася, новай нацыяналізацыяй і прадраклі сур'ёзныя наступства такіх дзеянняў.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка жорстка раскрытыкаваў урад нават за намёкі на рынкавыя пераўтварэнні і адмовіўся слухаць перасцярогі дзяржаўных эканамістаў пра рызыкі і пагрозы цяперашняй эканамічнай палітыкі. На думку экспертаў, спроба чыноўнікаў выканаць узаемавыключальныя ўказанні прэзідэнта прывядзе не толькі да адстаўкі ўрада, але і да чарговага эканамічнага крызісу. Лукашэнка пагразіў ураду адстаўкай, і яна немінуча будзе, упэўненыя эксперты ў Мінску, паколькі трэба будзе на кагосьці спісаць крызіс.

**«Независимая газета» (Расія)**

Фонд (Антыкрызісны фонд ЕўрАзЭС) плануе зрабіць больш жорсткімі ўмовы выдачы чарговага траншу крэдыту Беларусі. Невыкананне кантрольнага паказчыка — падстава адмовіць у крэдыце або адтэрмінаваць выдзяленне чарговага траншу да прывядзення паказчыка ў норму, вызначаную ўмовамі выдачы крэдыту. У выпадку прадстаўлення двух астатніх траншаў у 2013 годзе (880 мільёнаў долараў) знешні дзярждоўг Беларусі можа павялічыцца яшчэ на 1,2–1,5 працэнтных пункта — да 21,5% ВУП. Перавышэнне парогавых значэнняў можа павялічыць узровень інфляцыі, і ўлады Беларусі будуць вымушаныя звярнуцца да дадатковай эмісіі нацыянальнай валюты, што ў выніку можа прывесці да крызісу эканомікі краіны і адмоўнай плацежаздольнасці.

**«Finance» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. МІРАШНІЧЭНКУ ПРАСЛАВІЎ ЛЕНІН

Гучная акцыя па знішчэнні помніка Леніну ў горадзе Ахтырка групай нацыяналістаў з арганізацыі «Свабода» пад кіраўніцтвам нардэпа Ігара Мірашнічэнкі прынесла апошняму агульнанацыянальную славу. Разам з ёй у Мірашнічэнкі з'явілася хеўра ворагаў, якія пачалі шукаць на яго кампрамат. У выніку ворагі знайшлі факты, якія ўказваюць на тое, што, быццам, нацыяналіст Мірашнічэнка на самай справе жыве за кошт… рускіх. Справа ў тым, што на сястру Ігара запісаны кіеўскі гатэль «NyvkyPlaza», у якім любяць прыпыняцца госці з Масквы, у тым ліку вядомыя артысты. На аснове гэтай інфармацыі сайты, блізкія да Партыі рэгіёнаў, вінавацяць Мірашнічэнку ў тым, што ён жыве за кошт ненавісных яму маскалёў. У якасці доказу яны цытуюць каментары на сайце гатэлю. Амаль усе каментатары — турысты з Расіі. Аднак пакуль такі піяр не выклікаў вялікага інтарэсу ў грамадстве. Не дарма закладзеная Мірашнічэнкам мода на знішчэнне помнікаў часоў СССР крочыць па краіне. Практычна кожны дзень з розных куткоў краіны паступаюць навіны на атакі на мемарыялы Леніна.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. ПІРАТЫ СУПРАЦЬ ПРЫБІРАЛЬНЯЎ

Незвычайную акцыю правялі актывісты секцыі нямецкай «Партыі піратаў» у Берліне. У адным з раёнаў горада яны заклеілі спецыяльнымі стыкерамі таблічкі ў грамадскіх прыбіральнях. Такім чынам, замест звычайнага «Ж» або «М» пасля вылазкі піратаў фігуруе знак «МЖ». Гэтым, на думку «піратаў», у дадзеным раёне нанесены фатальны ўдар па апартэіду, які надае перавагу толькі мужчынам і жанчынам, ігнаруючы інтарэсы трансвестытаў. Як кажа лідар «піратаў», цяпер трансвестыты, якія будуць карыстацца прыбіральнямі, не будуць адчуваць сябе людзьмі другога гатунку. Ініцыятыва «піратаў» выклікала вялікі рэзананс у кансерватыўных СМІ. Кансерватары ахвотна распаўсюджваюць чуткі пра тое, што наступным аб'ектам «піратаў» у іх вайне за паліткарэктныя клазеты будуць школы.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. ЗАХОДНІЯ КАЗАХІ АБВЕСЦЯЦЬ СВАЮ ДЗЯРЖАВУ?

Калі верыць расійскім СМІ, вядомае крывавае падаўленне страйку нафтавікоў у Жанаазене было следствам арганізаванай правакацыі. За ёй, быццам, стаяла мясцовая эліта, незадаволеная кадравай палітыкай Назарбаева, які выкідвае з эшалонаў улады заходніх казахаў. Акрамя таго, на захадзе Казахстана, нібыта, існуе асаблівая рэгіянальная ідэнтычнасць. Тут жыхары лічаць сябе не казахамі, а адайцамі. Гэта звязана і з рэлігійным фактарам: на захадзе Казахстана вялікай папулярнасцю карыстаецца не заўважны ў іншых абласцях краіны салафізм — плынь, прыхільнікі якой прапагандуюць зварот да «чыстага» ісламу. Зноў жа, калі верыць артыкулам у расійскіх СМІ, адайцы заўсёды былі супраць знешняга дыктату і аж да 1930 года аказвалі супраціў Саветам, арганізаваўшы качавое ханства Адай. Нарэшце, інтарэс да сепаратызму звязаны з эканамічным фактарам. Багаты на газ і нафту Мангістаў дае 15 працэнтаў бюджэту краіны. Усё гэта дазваляе зрабіць высноўу пра прычыны, якія прывядуць да абвяшчэння адайскай дзяржавы. Адсутнасць нейкай фактуры ў такіх публікацыях дае права называць іх журналісцкай прыдумкай. Аднак тое, што страшылкі пра адайскі сепаратызм друкуюць блізкія да Крамля выданні, сведчыць, што ў іх заказчык сур'ёзны.

**Паводле казахскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. МОВА ПАМІРАЕ?




Вядучая правая польская газета «Rzeczpospolita» б'е ў набат — польская мова пад пагрозай. Гэтую пагрозу ўяўляюць замежныя, галоўным чынам англійскія словы, якія імкліва пранікаюць у побытавую лексіку палякаў у выніку глабалізацыі. Выданне звяртае ўвагу на тое, што слова «дом» практычна не ўжываецца будаўнічымі кампаніямі. Замест гэтага кажуць «хаус», «апартаменты», «рэзідэнцыя», «метраполітан парк». Не падабаецца газеце і тэндэнцыя называць камерцыйныя будынкі англійскімі словамі. Практычна ў кожным вялікім польскім горадзе можна наткнуцца на комплексы, якія маюць назвы «City Tower», «Office Center» або «Financial Center». Унутры тых будынкаў, як піша газета, пануе таталны касмапалітызм: тут працуюць выключна офісныя менеджары, кей-менеджары, цім-лідары і г.д. Нават заканадаўцы сталі ахвярамі гэтай хваробы: у мінулым годзе прыняты закон аб *timesharing*. Самае цікавае, што з 1999 года ў Польшчы дзейнічае Закон аб абароне польскай мовы, аднак, як сцвярджаюць сябры Савету польскай мовы пры Акадэміі Навук, яго ўдалося ўжыць толькі адзін раз. Гэта здарылася ў Шчэціне, дзе грамадзянскія актывісты не дапусцілі, каб гарадскі басейн называўся «Floating Arena».

**Паводле польскай прэсы**

---

ПАРТЫІ

# РУЖОВАЯ СХІЗМА

*Алег НОВІКАЎ*




**Здаецца, пачаўся новы віток развалу Іспаніі як унітарнай дзяржавы. Мясцовыя секцыі агульнанацыянальных іспанскіх партый патрабуюць аўтаноміі і нават незалежнасці.**

Як знішчыць гідру сепаратызму? Кіраўніцтва Іспанскай аб'яднанай рабочай партыі (PSOE) вырашала біць сепаратыстаў рублём. Штрафамі ў памеры ад 200 да 600 еўра пакарана група каталонскіх дэпутатаў-сацыялістаў у Картэсах, якія 26 лютага не прагаласавалі супраць рэзалюцыі аб праве Каталоніі на суверэнітэт, чым парушылі фракцыйную дысцыпліну.

Паколькі каталонскія сацыялісты маюць сваю мясцовую арганізацыю — Партыю сацыялістаў Каталоніі (PSC), якая фармальна з'яўляецца асацыяванай партыяй у PSOE, гэта пацягнула за сабой вялікую разборку паміж дзвюма структурамі.

У сваю чаргу, спрэчка вакол суверэнітэту Каталоніі агаліла ўсе старыя партыйныя хваробы PSOE: незадаволенасць фігурай старшыні, ідэалагічныя супярэчнасці, адсутнасць адзінства па тактычных пытаннях. Пікіроўкі паміж рознымі фракцыямі ўнутры PSOE дайшлі да такой ступені, што некаторыя СМІ паставілі сацыялістам суровы дыягназ — «кома».

Чым закончыцца ўнутрыпартыйная вайна, цяжка сказаць, а вось пытанне новага фармату адносін цэнтру і філіялаў у аўтаноміях трэба вырашаць хутка. Нагадаем, што структура PSOE, адпаведна статуту, уяўляе сабой федэрацыю, якая складаецца з 18-ці рэгіянальных сацыялістычных партый. Праўда, чым Сацыялістычная партыя Краіны Баскаў, Сацыялістычная партыя Галіі або Андалузіі адрозніваюцца ад звычайных абласных арганізацый, цяжка сказаць. Гучнасць назвы не замінае вызначаць іх курс Федэральнай выканаўчай камісіі (CEF). Схема яўна не аптымальная, калі гаворка ідзе пра такую тонкую сферу, як міжнацыянальныя адносіны. Дастаткова было адбыцца згаданаму вышэй інцыдэнту са штрафамі, як сацыялісты на перыферыі пачалі патрабаваць перагляду схемы.

Тое, што PSC бунтуе, — не дзіўна, калі ўзгадаць гісторыю партыі. Гэта арганізацыя ствараласа на базе цэлага кангламерату сацыялістычных партый, якія нарадзіліся ў краі пасля падзення дыктатуры Франка або проста выйшлі з падполля. Так здарылася, што ў першыя гады дэмакратыі ў Каталоніі дзейнічалі аж чатыры левацэнтрысцкія партыі: больш нацыяналістычныя «Партыя сацыялістаў Каталоніі — Групоўка» (PSC-R) і «Рэспубліканскія левыя Каталоніі» (ERC), артадаксальная марксісцкая «Партыя сацыялістаў Каталоніі» (Кангрэс) і, нарэшце, Каталонская федэрацыя PSOE. У выніку шматлікіх камбінацый апошняй удалося ўключыць у сваё шэрагі PSC-R і Кангрэс. У 1977 годзе адбыліся аб'ядначыя сходы каталонскіх сацыялістаў, на якіх і была абвешчаная тая самая PSC. А вось левыя рэспубліканцы адмовіліся аб'ядноўвацца, паколькі лічылі, што сацыялізм у Каталоніі магчымы толькі ў выпадку, калі краіна будзе незалежнай.

Такім чынам, у Каталоніі склалася забаўная сітуацыя, калі левы фланг прадстаўлялі адразу дзве партыі — левыя рэспубліканцы і сацыялісты. Магчыма, гэта і правільна, паколькі сацыяльнай базай PSC доўгі час былі ў тым ліку так званыя «працоўныя метраполіі» — гастарбайтэры, якія ў 1960-я гады прыехалі ў Каталонію з розных рэгіёнаў у пошуках лепшай долі. Яны напрыканцы 1970-х гадоў слаба разумелі забабоны тутэйшых і баяліся прымусовай культурнай і моўнай асіміляцыі.

Аднак з часам сітуацыя пачалася мяняцца: дзеці і ўнукі тых самых гастарбайтэраў, якія па традыцыі абіралі PSC, інтэграваліся ў соцыум. У выніку PSC пачала асцярожна патрабаваць большай самастойнасці. Першы званок прагучаў у 2004 годзе, калі адзін з дэпутатаў PSC, як высветлілася, кантактуе з баскскай тэрарыстычнай арганізацыяй ЕТА для таго, каб, па яго словах, арганізаваць дыялог паміж тэрарыстамі і іспанскім урадам. А некалькі гадоў таму PSC патрабавала сапраўднай федэралізацыі структуры PSOE, напрыклад, права самастойна без кантролю з цэнтру фармаваць выбарчыя спісы.

Цяперашні крызіс у адносінах паміж Каталоніяй і Мадрыдам напаткаў сацыялістаў (і не толькі каталонскіх) знянацку. У якасці канструктыўнай альтэрнатывы заклікам да незалежнасці сацыялісты прапануюць план федэралізацыі Іспаніі. Такой жа пазіцыі прытрымліваецца і цэнтральны апарат PSOE. Аднак першыя спробы накідаць макет будучай федэратыўнай Іспаніі, якія мелі месца на апошніх зборах кіраўніцтва PSOE, выявілі глыбокія супярэчнасці. Каталонцы патрабавалі, каб аўтаномія у новай канстытуцыі пакінулі права на самавызначэнне, што не спадабалася цэнтру. Той канфлікт неяк залагодзілі, аднак, як сведчаць апошнія падзеі, яго фундаментальныя прычыны не вырашаныя.

Што далей? Думаецца, магчымыя тры сцэнары. Варыянт першы: сацыялісты Мадрыду і Барселоны знойдуць кансэнсус на базе новай міжпартыйнай дамовы, чаго настойліва патрабуе Барселона. Пры другім варыянце мы будзем назіраць павольны працэс паступовай аўтанамізацыі PSC. Магчымы трэці, самы брутальны варыянт: PSC проста не будзе з кім заключаць новую федэральную дамову, паколькі цэнтрабежныя працэсы ўнутры PSOE прывядуць да яе дэфрагментацыі і стварэння на яе базе як мінімум дзвюх партый. Праўда, такая пагроза вісіць і над PSC. У партыі таксама пануе татальны бардак. Партыя тройчы запар прайграла выбары і знаходзіцца ў поўнай ідэйнай прастрацыі, у тым ліку з-за таго, што не ўпісалася ў дэбаты пра незалежнасць.

Цікава рэакцыя экспертнай і журналісцкай супольнасці. Тут сустракаюцца абсалютна палярныя ацэнкі. Так, некаторыя заклікаюць сацыялістаў тэрмінова знайсці агульную мову, паколькі цяперашняя канфрантацыя — як мінімум, удар па аўтарытэту левацэнтрыстаў, што дае глебу для з'яўлення ў Іспаніі папулісцкіх пратэстных палітыкаў. Ва ўсіх цяпер перад вачыма тое, што адбываецца ў Італіі.

Іншыя, наадварот, вітаюць спрэчку ў нетрах PSOE ў надзеі, што гэта ажывіць левы дыскурс і дасць імпульс для сацыялістаў. Прыхільнікі абнаўлення тэрміна склалі маніфест, у якім гаворыцца: «Мы павінны змяніць спосаб, якім мы займаемся палітыкай, каб партыя стала галоўнай сілай сацыяльных зменаў, інструментам трансфармацыі і мадэрнізацыі краіны дзеля патрэбы сацыяльнай большасці».

Ёсць і тыя, хто заклікае лідараў PSOE стаяць да канца супраць незалежніцкіх амбіцый PSC. На іх думку, любая саступка будзе значыць пачатак капітуляцыі перад ціскам каталонскага нацыяналізму. Дарэчы, нацыяналістычны ўрад Каталоніі сапраўды асобным рашэннем вітаў дэмарш сацыялістычных дэпутатаў у Картэсах. Нацыяналісты не хаваюць, што такі крок PSC дае ім права ў перамовах з Мадрыдам казаць пра тое, што абсалютная большасць вядучых палітычных сіл Каталоніі патрабуе права на самавызначэнне.

Пакуль усё адбываецца адпаведна другому сцэнару. Хаця лідары PSOE і PSC шмат кажуць пра намер заключыць новы міжпартыйны пакт, партыя сацыялістаў Каталоніі ўжо абвясціла, што пакідае за сваёй фракцыяй у іспанскім парламенце права галасаваць па-за дэпутацкай групай PSOE па каталонскай праблематыцы. Прэса расцаніла гэтую заяву як маніфест аб стварэнні суб-фракцыі — першы крок у накірунку поўнай партыйнай незалежнасці.

КІНО

# ПАЛІТЫКА ПРЫЙШЛА Ў ГАЛІВУД

Алег НОВІКАЎ

**Апошняя цырымонія ўручэння прэмій «Оскар» была гістарычнай. Ніколі яшчэ ў спісе кандыдатаў на намінацыю «Лепшы фільм» не было столькі стужак пра палітыку.**



Бен Афлек атрымаў «Оскар» за фільм «Аперацыя «Арго»

Нават калі б «Аперацыя «Арго» (стужка пра іранскую рэвалюцыю) не атрымала залатую статуэтку, яе «падстрахаваў» яшчэ больш палітызаваны «Лінкальн» Стывена Спілберга — другі фаварыт, які распавядае пра славутага прэзідэнта ЗША Абрахама Лінкальна. Акрамя таго, у спісе намінантаў прысутнічалі «Джанга Вызвалены» з тэмай рабства і «Мэта нумар адзін» пра пошук і забойства Бен Ладэна. На выхадзе мы маем абсалютны рэкорд: ніколі за ўсе часы выдачы прэмій «Оскар» у пуле намінантаў не было столькі фільмаў з ярка выражанай палітычнай тэматыкай. Такая расстаноўка дазволіла некаторым газетам жартаваць, назваўшы намінацыю на «Лепшы фільм» конкурсам «На лепшы палітычны фільм».

Іншымі словамі, палітычны ўхіл у Галівудзе відавочны. Гэта дало падставу шматлікім кіназнаўцам узгадаць былыя палітычныя фільмы, што былі ўганараваныя «Оскарам», і задумацца, што ж зараз уяўляе сабой жанр палітычнага кіно, і, натуральна, паразважаць, чым выкліканы такі інтарэс да гэтага накірунку ў кінамастацтве.

Калі пачынаеш разважаць пра палітычныя фільмы, адразу, як сказаў Ельцын, узнікае «загагуліна» — да канца не выпрацаваныя крытэрыі жанру палітычнага кіно. Возьмем, напрыклад, стужку «Роўна апоўдні» — прэтэндэнта на «Оскар» 1952 года. На першы погляд, звычайны вестэрн. Паводле сюжэту, шэрыф даведваецца, што ў горад едуць злачынцы, і намагаецца мабілізаваць грамадства для абароны гораду. Ніхто з абывацеляў не хоча рызыкаваць, і герою даводзіцца ў гордай адзіноце перабіць усю банду. Быццам прымітыўны сюжэт. Аднак не ўсё так проста. «Роўна апоўдні» быў успрыняты сучаснікамі як алегорыя на амерыканскае грамадства эпохі макартызму. Зорка вестэрнаў Джон Уэйн, які падтрымліваў сенатара Макарці, назваў яго «самым антыамерыканскім фільмам, які ён калісьці бачыў». Фільм выклікаў гарачыя палітычныя дэбаты, а той жа Уэйн зняў фільмадказ, у якім у падобнай сітуацыі прад пагрозай бандытаў грамадзяне дружна самаарганізоўваюцца.

Або фільм «Рокі» — трыумфатар 1976 года. Гісторыя маладога пралетарыя, які пабіў чэмпіёна свету, была ўспрынятая на той час як знак адраджэння амерыканскага духу пасля правалу ў В'етнаме.

Таксама, калі гаворка ідзе пра палітычныя фільмы, варта нагадаць адзін кур'ёз. Заснавальнікамі Кінаакадэміі, якая з 1929 года выдае «Оскараў», была студыя MGM і звязаная з ёй група кансерватыўных аналітыкаў, якія не жадалі бачыць кіно сродкам палітызацыі. Магчыма, з-за гэтага не атрымалі «Оскар» у 1930–1940-я гады стужкі, якія хутка сталі класікай: «Грамадзянін Кейн», «Вялікі Дыктатар», «Гронкі гневу», «Па кім звініць звон», «Містэр Сміт едзе ў Вашынгтон». Затое акадэмікі з радасцю падтрымалі ў 1942 годзе вельмі патрыятычны «Yankee Doodle Dandy». Праўда, гэта версія пра змову правых гучыць вельмі сумнеўна. Пераможцам 1929 года стала стужка «На заходнім фронце без перамен» — напэўна, адзін з самых моцных пацыфісцкіх маніфестаў усіх часоў.

Так ці інакш, роўна праз 20 гадоў кампанія MGM была ліквідаваная менавіта за тое, што тры гады яе карціны не здолелі здабыць ніводнага «Оскару». Сыход спонсара аслабіў ідэалагічны дыктат, і сябры Кінаакадэміі (якіх тады ўжо было 600) пачалі галасаваць больш разняволена. Таму ў 1949 годзе трыумфуе «Уся каралеўская рраць» — гісторыя ўтрапravaga... 

Як ні парадаксальна, пасля «Усёй каралеўскай раці» інтарэс да палітычных фільмаў амаль знік. Затое напрыканцы 1960-х гадоў на фоне палітызацыі грамадства пачынаецца бурная палітызацыя «Оскара». 1967 год — прыз у стваральнікаў стужкі «Душнай паўднёвай ноччу» — фільму пра расавыя забабоны ў ЗША. 1969 год — узнагароджаны фільм «Патан», дзе відавочныя асацыяцыі з вайной у В'етнаме. 1978 год — «Паляўнічы на аленяў» (тэма в'етнамскага сіндрому).

Пасля 1960–1970-х гадоў «Оскара» за палітыку давалі перыядычна, аднак дастаткова спарадычна — «Гандзі» (1982), «Узвод» (1986), «Спіс Шындлера» (1993).

Таксама варта ўзгадаць карціны, якія былі намінантамі на «Оскар», аднак не атрымалі статуэтку. «M*A*S*H» (1970) — пра абсурд вайны ў Карэі, «Нэшвіл» — пра сацыяльна-палітычныя праблемы ЗША пачатку 1970-х, «Уся прэзідэнцкая рраць» (1976) — пра журналісцкае расследаванне скандалу Уотэргейт, «Чырвоныя» (1981) — пра прыгоды амерыканскага журналіста Джона Рыда ў Петраградзе падчас Кастрычніцкай рэвалюцыі, «JFK» (1991) — пра тайну забойства прэзідэнта Джона Кенэдзі, «Малкальм Ікс» (1992) — пра культавага героя руху афраамерыканцаў ЗША, «Ніксан» (1995) — пра трагедыю Рычарда Ніксана, «Добрай ночы і ўдачы» (2006) — пра лёс журналістыкі ў часы макартызму, «Фрост супраць Ніксана» (2008) — пра славутую серыю інтэрв'ю, якія даў Ніксан журналісту Фросту, дзе фактычна прызнаў Уотэргейт, «Харві Мілк» (2008) — пра лідара руху сэксуальных меншасцяў у 1970-я гады.

І вось цяпер нечаканы поспех «Аперацыі «Арго». Нагадаем, што фаварытам прэміі напярэдадні ўсе дружна лічылі «Лінкальна».

Тое, што Бен Афлек (рэжысёр «Аперацыі «Арго») абставіў Спілберга, звязваюць з арыгінальнай мадэллю патрыятызму, якую прапануе карціна. У ёй няма напышлівых фразаў пра дэмакратыю, любоў да айчыны і г. д. Яе героі — звычайныя супрацоўнікі Галівуда, якія ўцягнутыя ў аперацыю ЦРУ па эвакуацыі амерыканскіх дыпламатаў, што хаваюцца ў Іране ад ісламістаў. Героі — крайнія цынікі і адкрыта смяюцца з амерыканскіх каштоўнасцяў і палітычных лідараў краіны. Тое ж самае робяць амаль усе прадстаўленыя ў фільме амерыканцы. Аднак гэты цынізм не замінае ім уключыцца ў гульні разведкі і выратаваць людзей, якіх яны нават не ведаюць асабіста. Як піша прэса, гэтыя постаці чымсьці нагадваюць Рыка, героя фільму «Касабланка», які адрынуў асабістае дзеля дапамогі антыфашысцкаму супраціву.

Шмат каму падыход Афлека нагадвае тое, як прадстаўленая гераіня фільму «Мэта нумар адзін» — дзяўчына, апанаваная расследаваннем 9/11. З аднаго боку, Майя — так завуць гераіню — заўзятая феміністка (гэта падабаецца левым). З другога — патрыётка (гэта падабаецца правым). Вось вам і гатовая формула новага патрыятызму. Калі меркаваць па рэакцыі, публіцы падабаецца такая дастаткова спакойная трактоўка разумення грамадскага і палітычнага.

Наколькі сур'ёзна палітычнае кіно ў яго цяперашняй мадэлі прапісалася ў Галівудзе, стане вядома напрыканцы года, калі агучаць намінантаў на «Оскар–2014».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### МАРАТ ТАЖЫН



Дзяржаўны сакратар Казахстана выступіў з незвычайнай ініцыятывай, якая, на яго думку, можа забяспечыць палітычную лаяльнасць казахаў да рэжыму Назарбаева. Зрабіць гэта вельмі проста: патрэбна скласці спіс 200-х самых папулярных казахскіх блогераў і пераканаць іх агітаваць у падтрымку Елбасы (Лідар Нацыі — афіцыйны тытул Нурсултана Назарбаева). Прычым зрабіць гэты спіс і паразмаўляць з яго фігурантамі, паводле чыноўніка, можна на працягу ўсяго двух месяцаў. Ён ужо аддаў загад пачаць працаваць у гэтым накірунку. Ініцыятыва выклікала вялікую дыскусію ў казахскім сегменце інтэрнэту, аднак, калі меркаваць па каментарах, не знайшла падтрымкі. У лепшым выпадку, карыстальнікі інтэрнэту лічаць яе праявай таго, што ўлады не разумеюць прыроду медыя-рынку — усе больш-менш папулярныя блогеры ўсведамляюць, што пераход у лагер прыхільнікаў рэжыму выкліча падзенне інтарэсу да іх каментараў з боку інтэрнэт-аўдыторыі. Хіба што некаторыя жартам гатовыя стаць дзяржаўнымі блогерамі, праўда, патрабуючы за свае паслугі як мінімум 50 тысяч долараў і паездку ў Монтэ-Карла. Калі сур'ёзна, дык аналітыкі лічаць, што праект Тажына не мае будучыні.

### БАРАК АБАМА



Прэзідэнт ЗША расчараваў прыхільнікаў жанру фантастыкі пасля таго, як пераблытаў герояў вядомых серыялаў. Падчас аднаго выступу, які тычыўся супярэчнасцяў з рэспубліканцамі па бюджэтных пытаннях, ён заявіў: «Я не валодаю здольнасцю ўжываць «зліццё розумаў» джэдаяў адносна гэтых людзей (лідараў рэспубліканцаў) і пераконваць іх у тым, што трэба рабіць». На самай справе, рыцар-джэдай — гэта, як вядома, персанаж з серыялу «Зорныя войны», а вось тэрмін «зліццё розумаў» належыць Споку, выхадцу з планеты Вулкан, герою іншага славутага серыяла — «Star Trek». Такая відавочная непісьменнасць адразу вылілася ў крытыку прэзідэнта ў інтэрнэце. Больш таго, аказваецца, у ЗША ёсць шмат дзівакоў, якія лічаць сябе вулканцамі. Яны адразу выказалі сваё незадавальненне на адрас гаранта. Праўда, тут ёсць адна праблема. Леанард Німой, які выканаў ролю Спока, публічна падтрымаў Абаму, прызнаўшы ў ім сапраўднага вулканца. Адным словам, скандал набірае такія маштабы, што некаторыя аналітыкі ўжо сцвярджаюць, быццам Абама спецыяльна пераблытаў фільмы, каб прыцягнуць да сябе ўвагу моладзі.

### РАБЭРТА МАРОНІ



Федэральны сакратар партыі «Ліга Поўначы» перамог на выбарах губернатара Ламбардыі свайго апанента ад кааліцыі левацэнтрысцкіх партый і стаў лідарам самай багатай італьянскай правінцыі. Перамога Мароні дала ўсім зразумець, што «Ліга Поўначы» не пакіне палітычную арэну так хутка, як прагназавалася ў мінулым годзе пасля гучнай адстаўкі яе заснавальніка Умберта Босі, які пагарэў на карупцыі. Як бачым, «Ліга Поўначы» дасюль карыстаецца падтрымкай значнай часткі італьянцаў на поўначы краіны. Яе перспектывы залежаць за агульных працэсаў на правым флангу, дзе дамінуе партыя «Народ Свабоды» Сільвія Берлусконі. У выпадку крызісу праекту Берлусконі (пра гэта зараз шмат гавораць у прэсе ў сувязі з новымі абвінавачаннямі, выстаўленымі на адрас Сільвіа) сепаратысты могуць стаць самай моцнай рэгіянальнай правай партыяй, атрымаўшы другое дыханне. Што тычыцца перспектыў Ламбардыі пад кіраўніцтвам Мароні, дык ніякай Паданіі, відавочна, тут не ўзнікне. Затое нелегальным эмігрантам салодка не будзе. У час свайго знаходжання на пасадзе дырэктара італьянскага МУС Мароні атрымаў позву ў Суд па правах чалавека ў Страсбургу за брутальныя дэпартацыі з краіны нелегалаў з Паўночнай Афрыкі.

▸ ЖЫЦЦЁ

# ІРАІДА ЦАРУК ГАДУЕ ПРАЎНУКАЎ І ПІША ЎСПАМІНЫ

**Іраіда Восіпаўна Царук — доктар гістарычных навук, прафесар, заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі, аўтар некалькіх кніг па гісторыі Беларусі. У гэтым годзе Іраідзе Восіпаўне споўнілася 85 гадоў. З гэтай нагоды, а яшчэ напярэдадні жаночага свята журналіст НЧ Сяргей Чыгрын вырашыў пагутарыць з гэтай цікавай і вельмі энергічнай жанчынай.**


Іраіда Царук у маладосці


Сяргей Прытыцкі


Маці і бацька Сяргея Прытыцкага

***— Іраіда Восіпаўна, давайце напачатку згадаем вашу родную вёску Гаркавічы і той час, калі вы з бацькамі там жылі.***

— Бацькі мае былі простыя вясковыя сяляне, жылі ў Гаркавічах і мелі 1,5 гектара зямлі. І 1,5 гектара апрацоўвалі яшчэ брата бацькі, які жыў у Беластоку. Бацька Іосіф Рыгоравіч Прытыцкі нарадзіўся ў Гаркавічах. Маці Наталля Ігнацьеўна таксама родам з Гаркавічаў. Мой дзед — бацькаў бацька — пражыў ажно 105 гадоў. І што цікава, што ён памёр у полі, калі працаваў. Дзед Ігнат, мамін бацька, быў рэкрутам, адслужыў 25 гадоў. У руска-турэцкую вайну ён быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжам.

У бацькоў маіх было шмат дзяцей, але многія паўміралі. Выжылі толькі шасцёра. Я была самая малая. Таму на сённяшні дзень у жывых нікога не засталося. Адзін мой брат Аляксандр быў расстраляны немцамі ў 1942 годзе, і ён пахаваны ў Юраўлянах. Другі брат Віктар загінуў пад Смаленскам на фронце. Таксама ў 1942 годзе. Маці памерла ў Гаркавічах у 1937 годзе і пахавана ў Юраўлянах. І калі сястра ставіла ім помнік, то туды ўпісала і прозвішча Віктара Прытыцкага. Бо мы шмат гадоў не ведалі, дзе ён загінуў і дзе пахаваны. У 2007 годзе я была ў Гаркавічах і ў Юраўлянах на Беласточчыне, наведала іх магілы, нашых сваякоў і знаёмых.

***— Сяргей Прытыцкі — гэта таксама ваш родны брат?***

— Так. Ён быў старэйшы за мяне на 15 гадоў. 1 лютага споўнілася 100 гадоў з дня яго нараджэння. Але памёр Сяргей рана — ва ўзросце 58 гадоў. Сяргей быў дзяржаўным і палітычным дзеячам Беларусі. З 1968 года ён з'яўляўся старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і намеснікам старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Пра яго напісаны кнігі і нават зняты кінафільм «Чырвонае лісце» на кінастудыі «Беларусьфільм».

***— У Гаркавічах на Беласточчыне, здаецца, некалі быў музей Сяргея Прытыцкага. Ці ёсць ён цяпер?***

— Такі музей у Гаркавічах сапраўды быў. Я нават прымала ўдзел у яго адкрыцці. Здаецца, гэта было ў 1973 годзе. Для музея я перадавала розныя матэрыялы і фотаздымкі брата. Але цяпер музея Прытыцкага там няма. Калі я наведала Гаркавічы, то пыталася ў вяскоўцаў: а дзе музей? «Даўно ўжо няма музея», — казалі мае землякі. Мне сказалі, што музейныя экспанаты забралі ў Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Беласток.

***— З Гаркавічаў родам быў і Павел Валошын.***

— Павел Валошын быў дзеячам нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Спачатку працаваў у Крынкаўскай паштова-тэлеграфнай канторы, а пасля Першай сусветнай вайны — у сельскай гаспадарцы. Быў адным з заснавальнікаў Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ) і сябрам яе ЦК у 1926–1927 гадах. Восенню 1933 года быў арыштаваны органамі НКУС па сфабрыкаванай справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Расстраляны ў 1937 годзе. Павел Валошын сябраваў з маім старэйшым братам Аляксандрам. Валошын яго далучыў да палітыкі, да беларускіх справаў. Разам з Паўлам Аляксандр стварыў у Гаркавічах гуртог ТБШ. А крыху пазней да іх далучыўся і Сяргей.

***— Іраіда Восіпаўна, а як вы трапілі ў Мінск?***

— Калі мой брат Сяргей быў намеснікам старшыні Беластоцкага аблвыканкама, ён мяне ў кастрычніку 1939 года з вёскі забраў у Беласток. Ён мне замяніў маму і вельмі турбаваўся пра мой лёс. А калі пачалася вайна, я з братам Віктарам хацелі вярнуцца з Беластока ў Гаркавічы, але нас не пусцілі, таму мы далучыліся да бежанцаў і заехалі ажно ў Саратаўскую вобласць Расіі. Там я апынулася ў дзіцячым доме ў Саратаўскай вобласці, а Віктар — у Саратаўскім рамесным вучылішчы. З вучылішча ён уцёк і пайшоў добраахвотнікам на фронт, дзе і загінуў пад Смаленскам. Брат Сяргей не ведаў, дзе я і дзе Віктар. Нас ён пастаянна шукаў. І аднойчы ўбачыў у спісках эвакуяваных. А калі знайшоў, прыехаў да нас на Саратаўшчыну. Пасля Сяргей зноў вярнуўся на Радзіму і пастаянна пісаў мне. Гэта былі вельмі цёплыя і шчырыя лісты, якія дапамагалі мне жыць і адначасова выхоўвалі мяне.

***— А пасля вайны вярнуліся ў Мінск?***

— Калі скончылася вайна, бацька ажаніўся другі раз і прыехаў з Гаркавічаў у Мінск, а пасля жыў у Клецкім раёне. Мяне Сяргей з Саратаўскай вобласці забраў у Маскву, дзе я паступіла ў рамеснае вучылішча. Скончыла яго і атрымала спецыяльнасць токара-фрэзероўшчыка. Але хутка захварэла на брушны тыф і прыехала да бацькі. Пасля вылечылася. Закончыла Нясвіжскае педвучылішча, і ў ліку 5% навучэнцаў-выдатнікаў была накіравана на вучобу на гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта, які скончыла ў 1953 годзе. Тут пазнаёмілася са сваім будучым мужам Аляксандрам Царуком, які таксама быў студэнтам гістарычнага факультэта.

Мой муж родам з Карэліцкага раёна. Кандыдат гістарычных навук. Працаваў намеснікам дэкана завочнага аддзялення Белдзяржуніверсітэта. Даследаваў у свой час пытанні гісторыі КПЗБ. А бацька мужа — Уладзімір Царук — быў адным з арганізатараў і кіраўніком падполля і партызанскага руху на тэрыторыі былой Баранавіцкай вобласці ў гады Другой сусветнай вайны, Герой Савецкага Саюза. У вёсцы Ярэмічы Карэліцкага раёна яму стаіць помнік. Дачка Наталля таксама гісторык, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, жыве ў Мінску, працуе на гістарычным факультэце Белдзяржуніверсітэта. Як бачыце, уся мая радня сваё жыццё звязала з беларускай гісторыяй.

***— Але найбольш яркая асоба ў нашай гістарычнай навуцы — гэта вы. Раскажыце пра сваю працоўную і творчую дзейнасць.***

— Пасля таго, як скончыла гістарычны факультэт БДУ, я ў 1957 годзе закончыла яшчэ аспірантуру. У 1965 годзе абараніла кандыдацкую дысертацыю, а ў 1976 — доктарскую. Кандыдацкая і доктарская дысертацыі былі прысвечаны даследаванням эканомікі, гісторыі і культуры Заходняй Беларусі. У 1973 годзе я была выбрана на пасаду дэкана гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. На гэтай пасадзе адпрацавала ажно да верасня 1986 года.

***— Ці лёгка было жанчыне ў той час узначальваць гістарычны факультэт лепшай навучальнай установы Беларусі?***

— Я ўзначальвала факультэт 13 гадоў. Час той быў нялёгкі, але цікавы. Мы шмат праводзілі навуковых канферэнцый, сустрэч, спартыўных спаборніцтваў, культмасавых мерапрыемстваў і г. д. Я наладжвала сувязі паміж сваім факультэтам і гістарычнымі факультэтамі прыбалтыйскіх вышэйшых навучальных устаноў, расійскіх, украінскіх, узбекскіх і іншых. Мы часта сустракаліся, абменьваліся педагагічным і навуковым вопытамі. Гэта было карысным для нас і для ўсіх гісторыкаў. Памятаю, сустрэліся ў Новасібірску з дэканам гістфаку мясцовага ўніверсітэта Маламётавым, які быў беларусам. Наогул, у Новасібірскай вобласці Расіі шмат жыве і тады жыло беларусаў, продкі якіх былі сасланыя яшчэ ў 1863–1964 гады. Маламётаў прыязджаў да нас на Беларусь і знайшоў сваіх продкаў тут, даведаўся, дзе жылі і дзе пахаваныя. Гэта было цікава як з боку знаёмстваў, так і з навуковага боку. А цяжка было працаваць таму, што факультэт наш быў даволі вялікі: сюды ўваходзілі аддзяленні гісторыі, філасофіі, палітэканоміі, навуковага камунізму, гісторыя КПСС. Было пяць накірункаў працы. І за ўсім трэба было сачыць, наладжваць вучэбны працэс, бо студэнтаў было на факультэце каля 2 тысяч, а выкладчыкаў — больш за 100. І ніякіх не было сварак, непрыемнасцей, зайздрасці. Усе дружна працавалі і вучыліся.

***— Пасля таго, як вы пакінулі пасаду дэкана, кім працавалі?***

— Пасля ўзначальвала кафедру гісторыі Беларусі да 1991 года. Маю шмат публікацый і кніг на гістарычную тэматыку. Падрыхтавала 30 кандыдатаў і 6 дактароў навук. Цяпер на пенсіі.

***— А чым займаецеся на пенсіі?***

— Выхаваннем праўнукаў. А яшчэ, скажу па сакрэту, пішу ўспаміны. Сёе-тое ўжо выдала. Але ўспаміны даюцца даволі цяжка. Таму што не ўсё памятаецца, згадваецца. Хачу таксама скласці генеалагічная дрэва Прытыцкіх. Патрэбны мне запісы з Юраўлянскай царквы. Толькі вось не ведаю, дзе іх шукаць: ці ў Гародні, ці ў Беластоку. Але гэта толькі планы. Ці ажыццявяцца яны, цяжка сказаць, бо мне ўжо нямала гадоў.

ЦІКАВА

# ФЛОРА — КАХАННЕ АДАМА

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Здавалася б, гісторыкі і літаратуразнаўцы дасканала вывучылі біяграфію знакамітага літвіна Адама Міцкевіч. Аднак усё яшчэ застаюцца малавядомыя старонкі яго жыцця.**



Адам Міцкевіч



Флора Ласкарыс-Забэла

## Знатнае прозвішча

Будучы студэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Віленскага ўніверсітэта, паэт часта шпацыраваў у цені дрэў старадаўніх віленскіх могілак Росы. Аднойчы ён звярнуў увагу на адну з магіл, у якой была пахавана графіня Ласкарыс. У той дзень юны Адам вырашыў для сябе, што яго будучая жонка будзе прадстаўніцай менавіта гэтага старадаўняга і вельмі знатнага роду. Тады малады навагрудчанін нават і думаць не мог, што хутка пазнаёміцца з прадстаўніцай гэтай фаміліі.

Варта падкрэсліць, што Ласкарысы з'яўляліся нашчадкамі візантыйскай імператарскай дынастыі, якая кіравала Нікейскім царствам у 1206–1261 гадах. Нікея была праваслаўнай дзяржавай, якая паўстала на тэрыторыі паўночна-заходняй Анатолі пасля захопу Канстанцінопаля крыжакамі ў 1204 годзе. У І Рэчы Паспалітай Ласкарысы з'явіліся ў XVIII стагоддзі. Юры-Марыя Ласкарыс (1706–1795) у 1738 годзе пераехаў з Рыма ў Львоў. Беларускі князь Радзівіл Рыбанька надзяліў яго маёнткам у Інфлянтах. Пазней Папа Рымскі прызначыў Ласкарыса сваім экспертам па справах Рэчы Паспалітай і запрасіў у Ватыкан.

Пляменнік Юрыя-Марыі Ласкарыса Тэадор даслужыўся да звання генерал-маёра войскаў Вялікага Княства Літоўскага. За свае заслугі ад караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ён атрымаў маёнтак Жодзішкі ў Вілейскім павеце. Неўзабаве яго жонкай становіцца Ганна Забэла. Тады ўпершыню два знакамітыя дваранскіх родаў — Ласкарысы і Забэла — парадніліся. Адзін з іх сыноў Альберт быў афіцэрам польскага легіёна французскай арміі Напалеона, удзельнічаў у вайне 1812 года і загінуў у бітве пад Лейпцыгам. Менавіта дачка Альберта і стала будучай каханай Адама Міцкевіча.

## Раман без працягу

З першых дзён свайго знаёмства з беларускай шляхцянкай паэт быў зачараваны не прыгажосцю і называў дзяўчыну «імператрыцай». Аднак Флора Ласкарыс спрабавала захоўваць дыстанцыю ў адносінах з будучым знакамітым паэтам. У 1829 годзе Адам Міцкевіч едзе ў падарожжа па Еўропе. У такое ж турнэ адпраўляецца і Флора.

У траўні 1832 года ў Дрэздэне ён зноў сустракаецца са сваёй каханай. Іх часта бачылі разам, і многім здавалася, што жаніцьба гэтых маладых людзей — вырашаная справа. Але... у 1833 годзе прадстаўніца шляхетнага роду выходзіць замуж за былога капітана войскаў ВКЛ, графа Антонія Забэла, які жыў у маёнтку Дурынічы пад Бабруйскам. Дакладна не вядома, што прымусіла Флору зрабіць такі выбар. Магчыма, важную ролю ў выбары дзяўчыны (а хутчэй за ўсё, як блізкіх) адыгралі вядомасць і багацце роду Забэла.



Марыя Шыманоўская

## Бабруйскія магнаты

Графскі тытул род Забэла атрымаў у XVII стагоддзі. У выданні 1884 года змяшчаецца вытрымка з «Гродскай кнігі», якая тычыцца прысваення ў 1683 годзе роду Забэла графскага тытула. Вось што там запісана: «Пастанавілі Міхаілу Тапарчыку са Збылутаў Забэла, генерал-маёру войскаў ВКЛ, па загадзе караля Яна III Сабескага і па прывілеі імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Леапольда I прысвоіць тытул графскі. Пасля перамогі пад Венай, Богам нам дадзенай, даслаў нам, каралю Яну III Сабескаму, ліст яго імператарская Вялікасць Леапольд I разам у прывілеем, за мужнасць у бітве той, падараваным для Забела. Дадзена ў лагеры пад Парканамі 10 кастрычніка 1683 года». У гэтым запісы гаворка ідзе пра падзеі вайны з Турцыяй, калі Міхаіл Забэла вызначыўся гераізмам і мужнасцю, за што і атрымаў графскі тытул.

Забэла парадніліся са знакамітымі беларуска-польскімі княжацкімі фаміліямі Радзівілаў, Завішаў, Незабытоўскіх, валодалі маёнткамі ў Бабруйскім павеце Мінскай губерні. Тут жылі прадстаўнікі так званай кашталянскай лініі гэтага роду. Маёнтак князёў знаходзіўся ў Дурынічах.

Родапачынальнікам кашталянскай лініі роду быў Шымон Забэла, апошні кашталян Мінскі, сын Антонія, вялікага лоўчага Літоўскага, маршалка ковенскага, генерал-лейтэнанта войскаў ВКЛ і кавалера французскага ордэна Св. Міхаіла. Дарэчы, вышэйзгаданы Антоній Забэла меў гонар у 1761 годзе прымаць у сваёй рэзідэнцыі «Чырвоны Двор» пад Вільняй прынца Карла, князя Курляндскага.

Шымон Забэла нарадзіўся 14 лютага 1750 года ў рэзідэнцыі «Чырвоны Двор». У 1787 годзе ён стаў Мінскім кашталянам. Забэла валодаў маёнткамі Арэхоўна, Цэкалава, Заранава, Дурынічы ды інш. За службу айчыне Шымон быў узнагароджаны вышэйшымі ўзнагародамі Рэчы Паспалітай — ордэнамі Белага Арла і Св. Станіслава. Бабруйскаму шляхціцу было прысвоена званне брыгадзіра кавалерыі нарадовай (войска Польскага каралеўства), а таксама генерал-лейтэнанта войскаў Вялікага княства Літоўскага. Жонкай Шымона Забэла была Барбара з Завішаў.

Канец XVIII стагоддзя стаў вырашальным часам для Рэчы Паспалітай. 3 мая 1791 года тут прымаюць першую ў Еўропе Канстытуцыю. У ліку тых хто прысягае на вернасць Канстытуцыі, быў і Шымон Забэла. За гэты ўчынак ён быў ушанаваны падзякай апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Вось вытрымка з тэксту ліста караля, адрасаванага Шымону Забэлу: «Спадар кашталян і генерал-лейтэнант Другой дывізіі войскаў літоўскіх. З вялікім задавальненнем атрымаў Ваш ліст ад 21 мая 1791 года, пра тое, што Вы ў прысутнасці Галоўнага трыбунала ВКЛ прынеслі прысягу Канстытуцыі нашай. У дакуменце, якім з'яўляецца Канстытуцыя, усё тое, што ашчасліўіць нашу агульную Радзіму, і Вы паказалі прыклад, як трэба любіць сваю Айчыну. Кароль Станіслаў Аўгуст».

Аднак Рэч Паспалітая дажывала апошнія часы. Хутка беларускія землі ВКЛ увайшлі ў склад Расійскай імперыі. Шымон Забэла памёр у 1824 годзе. Ён пакінуў пасля сябе трох сыноў. Двое з іх — Антоні і Юзэф — атрымалі ў спадчыну маёнткі ў Бабруйскім павеце. Будучы муж Флоры Ласкарыс — Антоні Забэла — нарадзіўся ў 1785 годзе. Атрымаўшы чын капітана войскаў ВКЛ, ён верна служыў Вялікаму княству і Рэчы Паспалітай.

## Сумны канец гісторыі кахання

Даведаўшыся пра жаніцьбу сваёй каханай, Адам Міцкевіч з'ехаў у Парыж, а ў красавіку 1834 года ажаніўся на Цэліне Шыманоўскай, дачцэ знакамітай польскай піяністкі і кампазітара Шыманоўскай-Валоўскай. Шлюб паэта не быў шчаслівым.

У 1834 годзе Флора нарадзіла дачку Антаніну, але праз год памерла і была пахавана побач з маці ў радавым склепе на могілках Росы ў Вільні. Па іроніі лёсу, Антаніна Забэла стала жонкай свайго далёкага сваяка польскага паэта Юрыя Ласкарыса. «Віленскі бусел», як называлі яго сучаснікі, не набыў славы Адама Міцкевіча. Ён вучыўся ў Віленскім і Пецярбургскім універсітэтах. Пасля вучобы супрацоўнічаў з шэрагам газет, сярод якіх «Кур'ер Віленскі» і «Тэка Віленская».

Пасля няўдалага паўстання 1863 года паэт вымушаны быў з'ехаць з Беларусі ў Парыж. Там ён і сустрэў сваю будучую жонку — Антаніну Забэла. У 1871 сям'я Ласкарысаў вярнулася на радзіму. Спачатку ў Варшаву, а затым у Бабруйск. У 1888 годзе Юры Ласкарыс памёр у маёнтку Доўбар пад Радашковічамі. Праз некалькі тыдняў пасля смерці мужа памерла і Антаніна Ласкарыс-Забэла.

Эпілогам гісторыі кахання Адама Міцкевіча і Флоры Ласкарыс была апублікаваная ў 1862 годзе ў «Газеце Польскай» нататка аб тым, што ў архіве памерлай амаль 30 гадоў таму Флоры Ласкарыс-Забэла быў знойдзены невядомы раней твор знакамітага Адама Міцкевіча. Балада пра пана Твардоўскага, польскага Фаўста, перахітрыўшага д'ябла, хутчэй за ўсё, была падорана аўтарам сваёй каханай. Гэты твор, у нейкім сэнсе, аўтабіяграфічны. Як і пан Твардоўскі, які ўцёк ад д'ябла, Адам Міцкевіч, пазбег рэпрэсій расійскіх улад, з'ехаўшы за мяжу. Але апынуўшыся там, яму, як і Твардоўскаму, які трапіў на Месяц, было больш не наканавана ўбачыць родную зямлю і... адзіную каханую.



Радавы склеп Забэлаў у Дурынічах пад Бабруйскам

РЭЦЭНЗІЯ

# КАБ СКАЗАЦЬ — І ПАЧУЛІ

Генадзь ШЭРШАНЬ

**У выдавецтве «Харвест» выйшла кніга мініяцюр «Каб сказаць… і пачулі» Валянціны Доўнар. У кнізе змясціліся каля тысячы абразкоў. Эпіграфам да іх аўтарка выбрала такія словы: «Не жаночая гэта справа — маўчаць. І таму — што бачу». Яна так і робіць: піша пра тое, што навідавоку, скрозь і ўсюды — у кватэры, пад'ездзе, у двары, на вуліцы, у аўтобусе, тралейбусе, метро.**




Доўнар не гоніцца за яскравымі сюжэтамі ці ўразлівымі дзеяннямі, не намагаецца зачапіць чытача нейкай незвычайнай дэталлю, не імкнецца дэманстраваць сваё дачыненне да вядомых і вялікіх, каб потым выказаць глыбакадумную банальнасць з прэтэнзіяй на неўміручасць. Яна піша пра тое, што кожны дзень здараецца з кожным з нас, але на што далёка не кожны звяртае і нават не хоча звяртаць увагу, да чаго ўсе мы ўжо пачалі прызвычайвацца. Пэўна, менавіта гэтым Валянціна Доўнар у першую чаргу адрозніваецца ад іншых, хто піша мініяцюры.

У кнізе Доўнар сабраныя амаль усе сацыяльныя тыпы жыхароў нашай краіны — ад бамжоў да вытворцаў, чыноўнікаў, бізнэсоўцаў сярэдняй рукі ў іх шматлікай разнастайнасці. Пяшчотных і злых, цвярозых і нападпітку, сквапных і змыслых, нядбайных і памяркоўных, лайдакоў і працавітых, нахабных і ветлівых, ганарлівых і сціплых, балбатлівых і маўклівых, прыстойных і, канешне ж, дужа талерантных, памяркоўных, цярплівых. Карацей — усялякіх.

Асабліва прыцягваюць увагу аўтаркі выпадкі неадпаведнасці формы і зместу, чаканага і сапраўднага ў нашым жыцці. Калі ў краме «Всё для вас» для сябе не знаходзіш анічога. Або ў прыгожай, прыстойна і дыхтоўна апранутай дзяўчыне раптоўна выяўляеш развязную хамку, як толькі яна адкрывае рот. Калі афіцыянтка кафэ не хоча бачыць наведвальнікаў, а наведвальнікі — яе.

Усё спазнаецца ў параўнанні. Так і ў Доўнар: клапатлівыя працавітыя бацькі і эгаісты, лайдакі дзеці, якім дай усё і зараз, а потым — хоць трава не расці. То абсалютна жаночы погляд на праявы нашага жыцця і побыту, нашы звычайныя, быццам бы дробязныя, учынкі, з-за якіх мы далёка не заўсёды выглядаем у прывабным святле. Аўтарка да такіх учынкаў ставіцца адпаведна: то з лёгкім гумарам і нават здзекам, то з абурэннем, перасцярогай, а то і з папярэджаннем. Таму што вельмі многа негатыўнага ў нашым жыцці, да чаго мы ўжо прызвычаіліся, але да чаго прывыкаць нельга, небяспечна. Ва ўзаемаадносінах стала вельмі мала павагі адзін да аднаго, узаемапаразумення, добразычлівасці, спрыяльнасці і зусім няма салідарнасці ні ў чым. Нават у двухмоўі не хочам, не жадаем паразумецца паміж сабою. Акрамя сваіх турбот і праблем іншых. Мы губляем у сабе чалавечнасць, перастаём быць грамадзянамі.

Аўтарка звяртае ўвагу, што «вырасла новае пакаленне людзей, якія «сэнсу не бачаць», каб нешта рабіць у хаце», «на кухні парыцца». Іхнія дзеці будуць з бальніц не вылазіць, у чым бацькі будуць вінаваціць усё і ўсіх, толькі не сваю неахайнасць. Доўнар абураюць людзі, якія ўмудраюцца жыць і не бачыць праблем сваёй краіны. «Жыць, адгарадзіўшыся, жыць, схаваўшы галаву ў пясок… Так (па вялікім рахунку) зручна… — Піша яна. — Адзінае — ненармальна, нават для страуса… рана ці позна, а галаву з пяску давядзецца выцягнуць, вочы — расплюшчыць. І — не вылучана — горка пашкадаваць, што зрабіў гэта позна, калі шмат што ўжо не паправіць».

Мова абразкоў не вельмі сакавітая і квяцістая. Яна нават сухаватая, «рэпартажная», «рубленая» — звычайная для невялікіх твораў. Але ў кнізе трапляюцца і сапраўдныя разынкі.

У адным з абразкоў аўтарка заклікае «ўсіх, хто хоча спасцігаць жыццё», кіравацца парадай Антона Чэхава: самім назіраць за жыццём і ўдумвацца, імкнуцца зразумець сутнасць. Можа таму і сваю кніжку яна назвала так: «Каб сказаць… і пачулі». Не хапае толькі відавочнага дадатку — «і задумаліся».

ЧАЛАВЕК У ВЫШЫВАНЦЫ

# «НАСІЎ Я СЦІПЛУЮ АПРАТКУ, ДЫ ГАНАРЫЎСЯ ВЕЛЬМІ ЁЙ...»

Таццяна ТРУБАЧ

**У асабістым фотаархіве Уладзіміра Содаля, колішняга тэлевізійнага рупліўцы, захаваліся фотаздымкі розных гадоў народнага паэта Беларусі Пятруся Броўкі (1905–1980). Звяртае ўвагу, што і ў маладым, і ў сталым веку ён апранаў беларускія вышываныя кашулі.**


Народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка

Гэтыя фотаздымкі, развагі над імі, паклікалі нас у вандроўку да памятных мясцінаў у сталіцы.

Мемарыяльны музей-кватэра патрыярха беларускай літаратуры Пятруся Броўкі знаходзіцца на вуліцы Карла Маркса, дзе жылі некалі і сёння жывуць многія выдатныя і знаныя дзеячы нашай дзяржавы. Колішняя вуліца Падгорная — яна заслугоўвае больш пільнай увагі экскурсаводаў і турыстаў. Мы са спадаром Содалем не гэтак даўно наведалі музей песняра, да таго ж і ганаровага грамадзяніна Мінска Пятруся Броўкі. Нашай мэтай было знайсці яго вышываныя кашулі і вытокі яго паважнага стаўлення да народнага адзення.

Нетаропка, спакваля мы разглядаем каштоўныя, арыгінальныя музейныя экспанаты. От бачым на старым фота матуліны кросны! Алена Сцяпанаўна Броўка не толькі ткала палатно для сваёй вялікай сям'і, але і вышывала. У музеі выстаўлены фрагменты яе вышыванак, напрыклад, ярка аздобленая манішка. Таксама бачым тканыя ходнікі, посцілку, пас. Чаўнок для кроснаў рабіў бацька Усцін Адамавіч. Падчас вайны гэтыя рэчы захаваў пляменнік Аляксандр Сыс. Заўважаем таксама здымак Петруся (1927 год) з братам Андрэем. Брат — у звычайнай тагачаснай кашулі, а Пятрусь — у вышыванцы. Пэўна, малады Броўка адчуваў сябе як творчую асобу, што адбівалася і вонкава.

Успамінаючы маладосць, ён ствараў адметны ўласны партрэт:

*Насіў я сціплую апратку,*
*Ды ганарыўся вельмі ёй —*
*У васільках касаваротку,*
*І з корту*
*Галіфэ-штаны,*
*І палатняныя абмоткі…*
*І шапку з зоркай пяцікутнай*
*Ва ўсе пагодныя*
*Часы,*
*З тым казырком, крыху прыгнутым,*
*Дзеля найбольшае красы.*

На працягу ўсяго жыцця Пятрусю давялося адзяваць розныя кашулі. Як толькі пачалася Вялікая Айчынная вайна, дык ён апрануў вайсковы мундзір. Але як скончылася нарэшце тое ліхалецце, ён зноў застаецца ў сваёй беларускай вышыванцы.

Найбольш выразны яго фотаздымак у сталым веку зроблены дзесьці на лавачцы. Паэтаў погляд выдае яго ўзнёслы настрой у сугуччы з прыродай. Менавіта вышыванка на ім адухаўляе песнярову постаць, гаворыць больш за словы. Разглядаючы фота Петруся Броўкі, міжволі ўспамінаецца яго рамантычны верш:

*Хіба на вечар той можна*
*забыцца?*
*…Сонца за борам жар-птушкай*
*садзіцца,*
*Штосьці спявае пяшчотнае бор.*
*Пахне чабор, пахне чабор…*

Вядомая класіка з школьнай праграмы нагадвае кожнаму чытачу яго маладосць і родныя мясціны, незабыўнае першае каханне. Там засталіся вытокі нашага жыцця. Матчына ў нас не толькі мова, але і вышыванка. Знаёмства з музеем пераканала нас, што любоў Петруся Броўкі да народных узораў адзення ідзе ад матулі, якая трагічна загінула ў Асвенцыме. У 1945 годзе была выдадзена Броўкава кніга вершаў «Беларусь», і яе вокладка зусім натуральна ўпрыгожана беларускім арнаментам.

А дзе ж сёння паэтавы вышыванкі? Нас усіх гэта вельмі цікавіць. «Шукаю я — няма…» Мабыць, недзе ёсць у прыхаваных фондах музея. Гэтая кашуля — адна з самых каштоўных рэчаў — тая самая спадчына, якую нельга страціць.

З'ЕЗД

# «БАЦЬКАЎШЧЫНА» СКЛІКАЕ СУАЙЧЫННІКАЎ

**VI з'езд беларусаў свету МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» адбудзецца ў ліпені.**

Ужо створана Рабочая група па падрыхтоўцы з'езду, якую ачоліла Ніна Шыдлоўская. Вызначаны таксама нормы прадстаўніцтва на з'езд ад суполак беларусаў замежжа і Беларусі.

МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» ладзіць з'езды беларусаў свету раз на чатыры гады пачынаючы з 1993 года. Тады, на Першым з'ездзе, сабралася больш за тысячу чалавек.

Сёлета — 20-ы год той значнай падзеі, і гэта выдатная падстава, каб ацаніць здабыткі і страты апошніх гадоў, прааналізаваць гісторыю і сучаснасць беларускага замежжа, асэнсаваць гэты феномен. Мяркуецца, што сёлетняя сустрэча збярэ больш за 300 дэлегатаў з 20-ці краін свету.

Паводле рашэння Малой Рады МГА «ЗБС «Бацькаўшчына», Шосты з'езд беларусаў свету мае адбыцца 23–24 ліпеня ў Мінску на тэму «Беларуская нацыя ва ўмовах глабалізацыі: выклікі і магчымасці».

Абраная тэма з'езду абумоўлена аб'ектыўнымі працэсамі, якія адбываюцца ў сучасным свеце, калі назіраецца ўзмацненне працэсаў глабалізацыі.

У той жа час, у новых умовах беларускія дыяспары сутыкаюцца і з праблемамі размывання нацыянальнай ідэнтычнасці, касмапалітызму значнай часткі новых эмігрантаў, змяншэння цікавасці да нацыянальнай дзейнасці сярод моладзі, а таксама з пытаннем адэкватнага вызначэння далёкасяжных мэтаў існавання беларускіх арганізацыяў.

Гэтыя і іншыя праблемы, таксама як і новыя формы актыўнасці асяродкаў, іх сувязяў з метраполіяй вартыя абмеркавання.

У межах з'езду прадугледжана праца трох секцый:

1. Магчымасці ўнутраных сіл Беларусі і дыяспары па ўмацаванні нацыянальнай ідэнтычнасці.
2. «Новая» і «старая» іміграцыі: супраца на карысць нацыянальнага развіцця.
3. Культурная спадчына беларускага замежжа.

Сустаршынямі арганізацыйнага камітэту па падрыхтоўцы з'езду абраныя: Радзім Гарэцкі (Беларусь), Алена Макоўская (Беларусь), Хведар Нюнька (Літва), Алег Рудакоў (Расія), Ніна Шыдлоўская (Беларусь).

**Паводле zbsb.org**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 246

Падпісана да друку 07.03.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча